# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

1966
Ліпень-Жнівень

Год XIV
№ 4 (97)

ЗЬМЕСТ:

ПАДПІСКА «БОЖЫМ ШЛЯХАМ» НА 1966 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.

У Вялікабрытаніі — 18 шылінгаў.

У іншых краінах у суме раўнаважнай 18 англ. шыл.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 2042 W. St. Paul Ave, Chicago 47, Illinojs, USA.

Mr. B. Danilovich 303 Hovard Str., New Brunswick, New Jersey, USA.

Mr. G. Gosciejew, 3416, W. 49-th Str. Cleveland 2, Ohio, USA.

Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str. Los Angeles, Calif, USA.

Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl. New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 31 Noble Str., Toronto, Ont. Canada.

У Нямеччыне:

Mgr. Ul. Salaviej, 892 Schongau/Lech, Städt. Altersheim, W. Germany.

У Аўстраліі:

Mr. M. Nikan, 14 Steel Str., Spotswood — Melbourne, Vic. 14, Australia.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. J. Hermanovič, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N. 12. Gt. Britain.

УВАГА: Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N. 12. азначае North, а не нумар.


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XIV** **July—August** **№ 4 (97)**

**1966**

MARIAN HOUSE, HOLDEN AVE, LONDON, N. 12.
ENGLAND

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

Год XIV | ЛІПЕНЬ — ЖНІВЕНЬ | № 4 (97)

*Уладыка Ч. Сіповіч*

# Патрэба больш сьвятароў

I.

Вучоны і слаўны французскі кардынал Піе, Архібіскуп Пуатерс, калісьці прамаўляў да групы жанчын на тэму сьвятарскага прызваньня.

— Спадарыні, казаў ён, я знаў і вельмі добра знаў беднага хлапчука зь вёскі недалёка Шартр, які гарэў жаданьнем стацца сьвятаром, але яго бацькі былі надта бедныя і ніяк не маглі паслаць яго ў школу.

Аднаго дня (гэта было сьвята Трох Каралёў) хлапчук увайшоў у касьцёл-катэдру ў Пуатерс. Захапіла яго веліч царкоўнае службы: сум агарнуў сэрца, плач душыў горла, вочы апухалі ад сьлёзаў. У гэткім стане ён выйшаў із сьвятыні.

Перад сьвятыняй убачыла яго старушка, што прадавала кветкі, і пытае:

— Хлопчык, чаму ты так плачаш?

— Жадаю стацца сьвятаром, але я такі бедны!..

— Я табе памагу!

І тая жанчына, сама бедная, датрымала слова: яна працавала днямі-начамі, зараблялa шыцьцём, каб толькі ўтрымаць свайго кандыдата ў духоўнай сэмінарыі.

— Ах, Божа мой! — са сьлязьмі ў вачах казаў кардынал — гэтая бедная гаротніца Марыеттэ Мілле ўжо памерла. А той хлапчук стаў сьвятаром, біскупам і кардыналам... Той сьвятар — гэта я, што прамаўляю да вас: ваш кардынал...

*

Бог пэўна належна адплаціў той працавітай і ахвярнай жанчыне, якая пасьвяціла свой час і здароўе, каб уратаваць Божае прызваньне ў пабожнага хлопчыка. Перад 1-ай сусьветнай вайною падобныя ахвярныя душы дапамагалі і нашым беларускім хлопчыкам стацца сьвятарамі. Аб гэтым маглі сьведчыць нашы вѐдамыя сьвятары Гэрмановіч, Стэповіч і іншыя.

II.

Калі кінем вокам на ўвесь сьвет, калі разважым ягоныя патрэбы — хлеба матар'яльнага і духоўнага — дык зразумеем словы Госпада: «Жаль Мне гэтага народу... яны як оўцы без пастыра...» А ўласна гэтых пастыраў брак усюды.

Напрыклад, у вялізнай каталіцкай краіне Бразыліі маса народу жыве бяз шлюбаў, бяз споведзі і нават бяз хросту, бо няма каму іх вучыць,спавядаць і нават *хрысьціць!* А тамжа ніхто рэлігіі ня прасьледуе: адзіная прычына — брак каталіцкага духавенства!!!

Паводля апошніх статыстыкаў, рэлігійны стан розных веравызнаньняў выглядае наступна:

| | | |
|---|---|---|
| Хрысьціяне | — 950 | мільёнаў, |
| Магамэтане | — 440 | „ |
| Буддысты | — 350 | „ |
| Гіндуісты | — 345 | „ |
| Конфуцыяністы | — 340 | „ |
| Анімісты | — 295 | „ |
| Шынтоісты | — 60 | „ |
| Таоісты | — 50 | „ |
| Жыды | — 13 | „ |

Усіх жыхароў на сьвеце налічваецца 3 мільярды 133 мільёны. Каталікоў 586 мільёнаў, пратэстантаў — 260 мільёнаў, праваслаўных 200 мільёнаў. За апошнія два гады прыбыло на сьвеце больш як 100 мільёнаў. Гэты лік, праўда, прыблізны, але ўсьцяж павялічаецца.

У 1965 г. каталіцкіх сьвятароў — сьвецкіх і законных — было 425 815 чал.

Трэба аднак ведаць, што — дзеля розных прычын — лічбовыя адносіны сьвятароў і вернікаў у розных краінах не аднолькавыя. З наступнае статыстыкі мы зь вялікім дзівам убачым, якая вялізная нястача сьвятароў на нашым бедным і багатым сьвеце.

У Францыі на аднаго сьвятара прыпадала 960 вернікаў, у Канадзе — 1 295, у Пэру —

5 810, у Бразыліі — 6 744, у Злучаных Штатах Амэрыкі — 3 300.

Бачым, якая розьніца ў паасобных краінах! Каб нармальна можна было весьці душпастырства, трэба аднаго сьвятара прынамсі на 1 000 вернікаў. Значыць, бяручы пад увагу ўвесь сьвет, каб здаволіць патрэбы душаў хрысьціянскага народу і патрэбы місіяў, не хапае каля *трох* мільёнаў сьвятароў!

### III.

А што сказаць аб краіне — *Беларусі?*

Колькі нам ведама, у Беларусі ёсьць яшчэ прынамсі 75 каталіцкіх парахвіяў, у якіх зь вялікімі перашкодамі працуюць сьвятары. Прыняўшы пад увагу, што ў нашай бацькаўшчыне ёсьць каля мільёна каталікоў, дык на аднаго сьвятара выпадае каля 13 000 вернікаў.

У нармальных варунках адзін здаровы сьвятар можа абслужыць больш-менш 2 тысячы вернікаў, а што-ж сказаць, калі да душпастырскай абслугі дойдзе шмат перашкодаў кліматычных, эканамічных, а такжа адміністрацыйных з боку бязбожнага ўраду! Ды трэба ведаць і тое, што сярод каталіцкіх сьвятароў у БССР шмат каторыя маюць 60 і больш гадоў веку і блізка ўсе перайшлі праз турмы і лягеры — недамагаюць або хварэюць.

І мусімо моцна падкрэсьліць, што Беларусь патрабуе сваіх сьвятароў, беларусаў. Дагэтуль — дзеля ведамых ненармальных абставінаў — у нас найбольш было сьвятароў польскага паходжаньня, або беларусаў апалячаных, якіх дзейнасьць ня была карыснай для нашай краіны, а часам нават прыкрай і шкоднай.

Аб эміграцыі ня будзем шмат гаварыць: тут таксама значны недахоп сваіх ідэйных сьвятароў — як каталіцкіх, так і праваслаўных.

### IV.

Калі разважым усе гэтыя важныя справы, дык мусімо глыбока задумацца і шукаць спосабаў ратунку для беларускае душы нашага народу. Што рабіць, каб прыдбаць больш шчырых працаўнікоў на Божай ніве?

Перад усім гэта справа бацькоў, настаўнікаў, кіраўнікоў у арганізацыях і наагул людзей старшых, паважных і пабожных. Дзеля гэтага трэба самым старшым, значыць, выха-



*В і л ь н я — каралеўскі замак і касьцёл-катэдра; гравюра з 1876 году.*

[illegible] упарадкаваць сваё жыцьцё: тады [illegible] нашыя добрыя рады будуць мець значэньне, а словы ня будуць пустымі. Трэба ведаць, што бяз Бога няма належнага выхаваньня. Дык, апрача добрага прыкладу, неабходна малітва за нашую моладзь, каб нам не забракавала «солі, зямлі і сьвятла сьвету» (Мацьвей 5, 13).

Папа Павал VI-ы казаў, зьвяртаючыся да *Моладзі:* — Прызваньне сяньня значыць: мець празрыста-чыстыя вочы і вялікае сэрца; значыць, праграмай свайго жыцьця трэба зрабіць насьледаваньне Хрыста, Яго гэраізм, Яго сьвятасьць, Яго місію дабра і збаўленьня. Нішто ў жыцьці ня можа паказаць нам вышэйшага ідэалу, больш праўдзівага, больш вялікадушнага, больш людзкога і сьвятога, чым пакорнае і вернае прызваньне да Хрыстовага сьвятарства . . .

— Гэтае прызваньне сяньня значыць вырачэньне сябе, непапулярнасьць, значыць ахвяру. Яно такжа азначае патрэбу аддаваць перавагу ўнутранаму жыцьцю перад вонкавым, патрэбу выбраць на заўсёды больш суровую дасканаласьць чым выгадную і нічым не значную сярэдзінку . . .

— Прызваньне сяньня — гэта здольнасьць слухаць голас сьвету, голас нявінных душаў, тых — бяз кіравецтва і на раздарожы і бяз любові; а такжа — сіла, якая загадвае маўчаць падлыжнікам і распешчаным эгаістам...

— Прызваньне сьвятара сяньня — гэта глыбокае зразуменьне *мэты* Царквы, якая сяньня больш чым калі-колечы стараецца выясьніць чалавеку ягоную натуру, яго прызваньне, яго долю. Царква такжа імкнецца выясьніць сваім сапраўдным дзецям багацьце любові Хрыста.

Нам выпадае добра ўчытацца і ўдумацца ў вышэй прыведзеныя словы Паўла VI-га!

У 2-ую нядзелю па Вялікадні абходзіцца Сусьветны Дзень Малітваў аб прызваньні да сьвятарства і манаства. Гэта ёсьць нядзеля Добрага Пастыра, як сам Хрыстос гаварыў аб Сабе: «Я ёсьць Добры Пастыр. Добры Пастыр сваю душу кладзе за свае авечкі, а найміт . . . як прыходзе воўк, пакідае авец і ўцякае: і воўк хапае іх . . . » (Іоан 10, 11-12).

---

*а. Аляксандар Надсон*

# Сьвяты Кірыл Тураўскі

## III.

### ПЯВЕЦ БОЖАГА МІЛАСЕРДЗЯ

Духовы воблік сьвятога Кірыла нідзе ня выступае так ясна, як у ягоных малітвах, якія без сумніву зьяўляюцца ягонымі найлепшымі творамі. Сярод іх на асаблівую ўвагу заслугоўваюць штодзённыя малітвы. Усяго іх налічваецца трыццаць, па чатыры і больш на кожны дзень тыдня.[36] Першапачаткова яны былі напэўна прызначаныя для прыватнага ўжытку манахаў у перапынках між рознымі царкоўнымі службамі. Усе носяць пакутны характар. Галоўнай думкай у іх ёсьць вобраз чалавека, які стаіць у ўсей сваей грэшнай нагаце перад Тварцом і ня мае ніякай надзеі на збаўленьне, акрамя Божага міласердзя. Разумеючы аднак, што няўдзячныя ня могуць чуць жалю за свае грахі, Кірыл звычайна пачынае малітву ад услаўленьня Божай велічы і Ягонай бесканечнай дабраты:

«Слава Табе, Хрысьце Божа мой, за тое, што Ты ўдастоіў мяне бачыць дзень Твайго слаўнага зьмёртвыхустаньня, у якім Ты вызваліў душы праведных, зьвязаных у пекле. Гэтага вызваленьня жадаю і я, Уладару мой: выбаў мяне, зьвязанага шматлікімі грахамі, і зрабі, каб у пацямнелай маей душы зазьзяла сьвятло Тваей ласкі. Я ведаю Твае нязьлічоныя шчадроты і Тваю нявымоўную любоў да людзей: Ты прывёў мяне з нябыцьця да існаваньня і ўпрыгожыў падабенствам Твайго вобразу; Ты узвысіў мяне вышэй за іншыя

[36] Гэтыя малітвы носяць звычайна назоў «малітваў на ўвесь тыдзень». Ня гледзячы на іхні прыватны характар, Кірыл прытрымоўваецца у малітвах літургічнага назначэньня днёў, як гэта практыкуецца у Бізантыйскім абрадзе. Такім чынам панядзелак пачынаецца малітваю да ангелаў, аўторак — да сьв. Яна Хрысьціцеля, чацьвер — да сьв. апосталаў, сыбота — да ўсіх сьвятых. У малітвах у сераду услаўляецца асабліва Найсьвяцейшая Багародзіца, а ў пятніцу ўспамінаецца мука і крыжовая сьмерць Ісуса Хрыста.

зямныя істоты, даўшы мне мову і розум, і паставіў мяне ўладаром усяго стварэньня; ведаючы ўсе дні майго жыцьця, Ты апекаваўся мною ад майго дзяцінства, каб я мог быць збаўленым і стацца сябрам слаўнага чыну Тваіх ангелаў». (Нядзеля раніцай).

А вось яшчэ прыклад:

«Што Табе дам, Госпадзе Ісусе Хрысьце, Сыне Божы, за ўсё, што Ты зрабіў для людзкога роду? Якую адплату ахвярую Табе за Тваю дабрату? Ні неба ні зямля ня могуць прынесьці Табе дастойных дароў. Ты сам захацеў прыйсьці на зямлю, каб збавіць грэшнікаў. Будучы бесцялесным, Ты прыняў цела дзеля нас і дабравольна стаўся бедным, будучы багатым». (Пятніца пасьля часоў).

Усьведаміўшы сабе такім чынам Божую дабрату, перад вачыма грэшніка з тым большай сілай паўстае веліч ягоных праступкаў і няўдзячнасьці:

«Я-ж, няшчасны, усімі маімі помысламі гнаўся за цялеснымі прыемнасьцямі і, уваліўшыся ў гной грахоў, зрабіў сябе чужым для Тваей ласкі. Будучы Тваім сынам цераз нараджэньне ў духоўнай купелі, я стаўся нявольнікам граху. Дзеля гэтага я ўздыхаю ад глыбіні сэрца і, хворы душою, увесь занемагаю, размышляючы аб судной часіне. Як я там буду захоўвацца, што скажу аб маіх грахах і які адказ мне будзе ад Судзьдзі? Дзе я скрыю безьлік маіх праступстваў? Я ня маю нікога, хто-б дапамог і выбавіў мяне. Што мне рабіць, Госпадзе мой, Госпадзе! Ня ведаю, да каго зьвярнуцца, просячы аб збаўленьні маей душы». (Нядзеля раніцай).

Бязьмерны сум адчуваецца ў наступным прачулым лірычным апісаньні стану грэшніка:

«Я зышоў з праўдзівага шляху, які вядзе ў жыцьцё, і ўхіліўся ў пустыню асалодаў. Я ўграз у балоце маіх дрэнных учынкаў і стаўся ўвесь паранены цернямі беззаконьня. Вораг, бачучы мяне ў такім годным жалю стане, у яшчэ горшых брыдотах хоча ўтапіць маю няшчасную душу». (Середа вечарам).

Аднак няма прычыны да роспачы: Бог ёсьць літасьцівы і ня хоча сьмерці грэшніка. Ён ніколі не адкідае таго, хто прыходзіць да Яго з пакорным сэрцам. Дзеля гэтага грэшнік шукае прытулку ў Бога. Ён нават сьцьвярджае з пэўнай доляй справядлівай гордасьці, што хоць ён і саграшыў бяз ліку, аднак ніколі ня ўзьняў рук да чужога бога і ня страціў надзеі ў Божае міласердзе:

«Ня дай мне згінуць да канца, Ісусе — салодкае імя, — Ты, які стварыў мяне з зямлі і даў мне жыцьцё! Глянь на маю пакору: хоць я і саграшыў бяз ліку, але ніколі ня ўзьняў рук маіх да чужога бога і ня ўсумніўся, ведаючы Тваю любоў да грэшнікаў. Я размышляю аб Давідзе: ён, будучы царом, упаў у прорву грэшных пажаданьняў і зрабіў забойства, але, пакаяўшыся перад Табою — Богам і Тварцом, — ён аказаўся дастойным Твайго міласердзя». (Нядзеля раніцай).

Такім чынам прыклад Давіда і іншых старазапаветных сьвятых, якія цераз пакуту атрымалі адпушчэньне грахоў, дадае надзеі грэшніку. Часамі ў Кірыла вырываецца гарачы гімн у чэсьць пакуты, якая адчыняе дзьверы Божага міласердзя:

«Да каго я прыбегну, просячы збаўленьня, як не да Цябе, мой Стварыцелю? Я ведаю Тваё доўгацярпеньне і Тваю сапраўдную любоў да людзей. Хто можа высказаць усе цуды зробленыя Табою адвеку і дастойна усхваліць Тваё міласердзе? Ты ня радуешся з сьмерці грэшніка, але цешышся з ягонага навароту да жыцьця. Дзеля гэтага ад пачатку Ты нам паказаў вобразы пакаяньня: Ты зьлітаваўся над Ізраілям, які пакаяўся, прагневаўшы Цябе ў пустыні; Ты збавіў Ніневіцянаў, асвабадзіў ад путаў Манасію і Езакію вярнуў ад сьмерці да жыцьця. Што-ж ёсьць большым ад пакуты, так прыемнай Твайму Духу? Ўся праўда людзкая ёсьць як павуціньне, што лёгка разьдзіраецца. Хто можа пахваліцца перад Табою, што ён мае праведнае сэрца, або што ён чысты ад граху? Фарысэй праведны, пахваліўшыся, быў асуджаны. Я-ж няшчасны, абняты безьлікам злых грахоў, што зраблю? У якую бездань укіну сябе? О сіла сьлёзаў, о салодкая пакута, дзеля якой Ты асьвяціў Давіда і зрабіў яго пракрокам, апраўдаў мытара, грэшніцу ачысьціў і блуднага сына, з радасьцю спаткаўшы, зрабіў удзельнікам Твайго Боскага банкету!». (Пятніца раніцай).

Вялікай пацехай для грэшніка ёсьць тое, што ён не адзін, але мае шмат магутных прыяцеляў і апякуноў: ангелаў, сьвятых, апосталаў і, перадусім, Найсьвяцейшую Багародзіцу. Сьвяты Кірыл асабліва ўсхваляе Яе, «у чыей моцы ёсьць усё збаўленьне»:

«Надзея ўсіх канцоў зямлі, Найсьвяцейшая Багародзіца, ангелаў вялікае ўзьдзіўленьне, пракрокаў ўзвышанае прапаведаньне, апосталаў хвала, мучанікаў цьвёрдае ўмацаваньне, сьвяціцеляў выдатнае ўпрыгожаньне, князёў непераможная дзяржава, цэркваў чэсная краса, манахаў сьвятая надзея, постнікаў непарушаная моц, верных цьвёрдая абарона, лёгкае выздараўленьне хворых, добрая настаўніца для заблудзіўшых, хуткая заступніца ў бядзе, для ненавідзімых поўная любові пацеха, карміцельніца сіротаў, ціхая радасьць матак, павучэньне ў мудрасьці для маленькіх, спакойная прыстань для тых, што плаваюць, лёгкі праход для падарожных, для спрацаваных добры супакой, нясчэрпнае ба-

гацьце бедным, пакроў і уцечка для пакрыўджаных, пацяшэньне сумных, прымірэньне з Богам для грэшнікаў, надзейная абарона ўсіх хрысьціянаў і ведамае збаўленьне для ўсяго сьвету... Усхваляю Цябе ангельскім прывітаньнем: радуйся, поўная ласкі Дзева, Маці Багародзіца, зямное неба, адухаўлёная царква, прасторны харом, селішча Бога неўмясьцімага, сьветлы ліхтар, хутчэйшая за маланку памочніца, зорка незаходная, чаша, што мае ў сабе віно збаўленьня; купеля, што абмывае грахі; узвышэньне роду людзкога, трон хлеба жыцьця, Маці Хрыста Бога нашага! Малі Яго, каб Тваім заступніцтвам, выбавіў мяне ад вечнае мукі цяпер і заўсёды і на векі вечныя. Амінь». (Серада раніцай).

А вось як Кірыл зьвяртаецца да сьвятога Апостала Пятра:

«Сьвяты Пятро — першапрастольны, цьвёрды камень веры, непарушаная аснова царквы, пастыр разумнага стада Хрыстовага, ключар каралеўства нябеснага, лоўца ў глыбіні, якая перайходзіць ўсякае зразуменьне! Малю цябе, уседастойны: зрабі, каб абняла мяне Боская сетка, і выцягні мяне з згубнай глыбіні. Я ведаю цябе, што ты атрымаў ад Бога ўладу зьвязваць і разьвязваць: разьвяжы, прашу, мяне зьвязанага грэшнымі путамі і пакажы міласэрдзе тваё на мне, убогім тваім слузе. Ажыві маю пакорную душу, як некалі ты падняў з мёртвых Тавіту; пастаў мяне на добры шлях, як некалі ты паставіў з пасьцелі кульгавага у Красных Варотах. Ты ценям сваім праганяў немачы і хваробы: хай падзе на мяне цень тваей дабраты, што праганяе духовыя хваробы і цялесныя слабасьці. Ты ўсё можаш, сьвяты, сілаю Хрыста, дзеля Якога ты пакінуў усё і, палюбіўшы Яго, пайшоў усьлед за ягонымі стапамі, і за Ягонае сьвятое Імя насіў путы. Памаліся да Яго за мяне няшчаснага, каб я мог выбавіцца тваімі малітвамі ад усякага зла». (Чацьвер раніцай).

Такім чынам, ня гледзячы на пакутны характар малітваў сьвятога Кірыла, у іх адсутнічае дух безнадзейнасьці і роспачы. Наадварот, яны поўныя хрысьціянскага аптымізму, які мае сваю аснову ў цьвёрдай веры ў бесканечнае Божае міласэрдзе. Дзеля гэтага глыбокі і шчыры жаль за грахі ёсьць злагоджаны ціхай духовай радасьцю. Гэтая радасьць выліваецца часамі ў натхнёную песьню хвалы Бога, як у гэтай кароткай малітве:

«Зрабі мяне дастойным, Госпадзе, убачыць ранішнюю зару і сонца і, пры Тваей дапамозе, захавацца ад грэху; і дай, каб я мог славіць, Уладару, Тваю Дабрату. Ты стварыў увесь гэты прыгожы сьвет на службу для нас грэшнікаў: зрабі і мяне дастойным гэтых Тваіх дараў. Малюся Табе, літасьцівы Госпадзе, дай, каб адзін дзень я мог аглядаць вечны, безканечны і нязьнішчальны сьвет Твайго Вобліку. Цяпер-жа, падбадзёраны ласкаю Тваею і ўзрадаваны Тваім міласэрдзем, усклікаю: слава Табе, сьвятая, адзінасутная, неразьдзельная і жыватворчая Тройца, Ойча, Сыне і Сьвяты Душа, цяпер і заўсёды і на векі вякоў. Амінь». (Сыбота вечарам).[37]

*

*Каноны* сьвятога Кірыла складаюць асобную групу ягонай гімнаграфічнай творчасьці. У адрозьненьне ад малітваў, яны зьяўляюцца творамі літургічнымі, прызначанымі для агульна-царкоўных службаў Божых.

Канон — гэта даволі складаны рэлігійны паэтычны твор, які паявіўся ў бізантыйскім абрадзе ў пачатку 8-га стаг. Першым тварцом канонаў лічыцца сьв. Андрэй Крыцкі (660—740). Ягоны «Вялікі Канон», які вызначаецца сваім выбітна пакутным характарам і церазмернай даўжынёй, да гэтага часу сьпяваецца на ранішняй службе (утрані) ў пяты чацьвер Вялікага Посту.

Поўны канон складаецца з дзевяці песьняў, кожная з якіх мае чатыры, пяць або больш зваротак (трапароў). Спачатку каноны сьпяваліся толькі ў часе ранішняй службы (утрані) і песьні канону чаргаваліся з песьнямі з Сьвятога Пісьма, якія былі складовымі часткамі гэтай службы. Першая зваротка кожнай песьні канону — гэтак званы ірмас — павінна была служыць пераходам ад тэмы адпаведнай песьні з сьв. Пісьма да тэмы канону. Паколькі гэтыя дзьве тэмы звычайна ня былі зьвязаныя з сабою, дык зрабіць такі пераход ня было лёгкай справаю. Толькі вялікія мастакі слова маглі разьвязаць гэтае пытаньне шчасьліва і ўнікнуць штучнасьці.

З двух захаваўшыхся да сяньняшняга дня канонаў сьв. Кірыла найбольш цікавым зьяўляецца ягоны «Канон Малебны». Пакутны дух гэтага твору робіць яго асабліва прыдатным да Вялікапостных службаў. Вось першая песьня канону ў цэласьці:

---

[37] Акрамя штодзённых малітваў Кірылу прыпісваецца таксама некалькі «штодзённых вызнаньняў грахоў і памінальняў» і «малітва на ісход душы». Некаторыя дасьледчыкі аднак сумняюцца ў аўтэнтычнасьці гэтых твораў. Вось для прыкладу вынятак з аднаго такога «вызнаньня і памінальня»: «Спасі, Госпадзе, і зьлітуйся над тымі, што ненавідзяць і крыўдзяць мяне, чуюць да мяне варожасьць і робяць мне ўсякія прыкрасьці, а таксама тых, якія зьнеслаўляюць і абмаўляюць мяне. Няхай ніхто з іх не пацерпіць дзеля мяне недастойнага ніякім чынам ні ў цяперашнім веку, ні ў будучым, але Ты, Усядобры, ачысьці іх Тваім міласэрдзем і пакрый Тваею ласкаю». Калі-б гэтая кароценькая малітва сталася штодзённаю малітваю ўсіх хрысьціянаў, дык напэўна сьвет быў-бы лепшым месцам да жыцьця, чым ён ёсьць цяпер.



*«Штодённыя Малітвы» выданыя ў Вільні ў 1601 годзе ў друкарні братоў Мамонічаў. У кнізе памешчаны малітвы св. Кірыла Тураўскага. (Здымак з паасобніка, які знайходзіцца ў Бодлейскай бібліятэцы ў Оксфордзе).*

---

«*Ірмас.*[38] Успамінаючы правіну Майсея, уцякай, душа, з грэшнага Ягіпту, адкінуўшы няволю духовага Фараона, і, зрабіўшы крыж тваей падпорай, перайдзі пакорна мора пажаданьняў, усклікаючы: пяем песьню Госпаду, бо ён слаўны назьдзіў.

Я сам віню сябе ў злых маіх учынках, якімі я ўгнявіў Хрыста, пераступіўшы ягоныя прыказаньні. Сяньня-ж перадаю на пісьме ўсе мае думкі, словы і бясчынствы, усе мае агідныя бяспраўствы, каб сьвет пачуў аб іх.

Як доўга, бедная мая душа, ты будзеш спутана цялеснымі асалодамі, крыўдамі, бязьлітасьцю, гордасьцю і п'янствам. Гэта ўсё варожыя пасткі, якія зьвядуць цябе жывую ў пекла. Лепш, пакаяўшыся, усклікні: О Хрысьце мой! Разарві мае грэшныя путы і збаў мяне!

Цябе нязмоўкна хваляць вогненнымі галасамі войскі серафімаў, Найсьвяцейшая Тройца, Стварыцель усяго сьвету. І я прыбягаю да Цябе, просячы адпушчэньня маіх многіх грахоў. О Літасьцівы Стварыцелю: збаў мяне хоць у апошнюю хвіліну.

Як неразумныя дзевы, я ня маю лямпы пакаяньня і не запасься аліваю міласэрдзя, і таму дарэмна стукаю ў зачыненыя дзьверы. О Маці Божая, Ты збаў ад мукі маю няшчасную душу».

Пераход ад тэмы 1-шай песьні сьв. Пісьма (Выхад 15, 1-19) да тэмы канону ў ірмасе Кірыл зрабіў пры помачы прыраўнаньня ўцечкі душы ад грэху, да ўцечкі жыдоў з Ягіпту. Перадапошняя зваротка ёсьць у гонар Сьвятой Тройцы, а апошняя — ў чэсьць Багародзіцы. Гэты парадак захаваны у ўсіх песьнях канону.

Ірмас другой песьні гучыць так:

«Пачуй, неба, сказаў Майсей, напісаўшы другі запавет для тых, што пераступілі першы. Зразумей, душа, свой упадак: Бог справядлівы, Ён судзіць праведна і дае кожнаму паводле ягоных учынкаў».

Адпаведнай песьняй сьв. Пісьма ёсьць Песьня Майсея ў Другазаконьні (Др. Зак. 32, 1-43). Вось яе пачатак: «Слухай, неба, я буду гаварыць; слухай, зямля, словы вуснаў маіх... Імя Госпада праслаўлю: дайце славу Богу... Ён — цьвярдыня... Ён праведны і справядлівы. Але яны (г. зн. жыды) разбэсьціліся перад Ім, яны ня дзеці Ягоныя, род лянівы і разбэшчаны». (Др. Зак. 32, 1-5).

Трэці ірмас зьвязвае канон з песьняй Анны, маткі прарока Самуіла (1 Царств. 2, 1-10). Анна была бязьдзетнаю. Бог аднак пачуў яе малітву і даў ей сына, якога яна, паводле абяцаньня, ахвяравала Госпаду. Прынёсшы сына ў сьвятыню, Анна засьпявала хвалебную песьню, ў якой, між іншым, услаўляецца Божая магутнасьць: «Ніхто не сьвяты, акрамя Госпада; няма іншага (бога), акрамя Цябе, і няма цьвярдыні, акрамя Бога нашага . . . сытыя працуюць бяз хлеба і галодныя адпачываюць; нават бясплодная родзіць сем разоў, а шматдзетная занемагае. Гасподзь усьмяротлівае і ажыўляе, зводзіць уніз і узвышае» (1 Царств. 2, 2 і 5-6). Вобраз бяздзетнай Анны наводзіць нашага сьвятога на думку аб сваей душы, якая сталася бясплоднай, дзякуючы грахом. Ён просіць Бога, каб Той у сваей магутнасьці зрабіў яе зноў пладавітай:

«Ты, Божа, будучы ўсемагутным, зрабі зноў дабраплоднымі маю зьняможаную грахамі душу і маё апусьцелае сэрца: у пакоры духа прынашу Табе гэтую малітву».

Гэтых прыкладаў досыць, каб паказаць, як Кірыл умеў па мастацку павязаць Біблій-

---

[38] Каноны звычайна сьпяваюцца на адзін з васьмі літургічных тонаў ведамых у бізантыйскай царкоўнай музыцы. Канон Малебны сьв. Кірыла сьпяваецца на тон пяты.

ныя тэмы з тэмаю свайго канону. Наагул ягоны канон — як і ўсе іншыя творы, — ёсьць перапоўнены біблійнымі і евангельскімі вобразамі. Так, у прыведзенай вышэй апошняй зваротцы першай песьні, Кірыл выкарыстоўвае прыповесьць аб мудрых і неразумных дзевах (Мт. 25, 1-12). Лёс старазапаветнага Лямеха (Быцьцё 4, 23-24) дае яму повад да размышляньня над собскімі паступкамі:

«Як Лямех, вызнаю перад усімі мае грахі, а злых абычаяў маіх не пакідаю. Гора мне няшчаснаму, дастойнаму ўсіх мукаў».

У іншым месцы Кірыл прыраўноўвае грэшніка да згубленай драхмы (Лк. 15, 8-9):

«Ты, Хрысьце, ёсьць вельмі літасьцівы і не жадаеш сьмерці грэшніка: запалі ліхтар Твайго міласердзя і знайдзі мяне — Тваю драхму, — і, пазваўшы сьвятых суседзяў, зрабі вясельле для ўсіх ангелаў і людзей».

Паводле свайго духу Малебны Канон сьв. Кірыла ёсьць вельмі блізкі да ягоных малітваў. Адчуваецца моцны уплыў Вялікага Канону сьв. Андрэя Крыцкага, — асабліва ў выкарыстоўваньні біблейскіх вобразаў, — а таксама вялікапостных канонаў сьв. Тодара Студыта.[39]

*

Калі судзіць аб вартасьці малітвы паводле ейнае здольнасьці парушаць людзкія сэрцы і накіроўваць думкі да Бога, дык трэба сказаць, што малітвы і канон сьв. Кірыла маюць гэтыя якасьці ў найвышэйшай ступені. Яны вызначаюцца глыбінёй і шчырасьцю рэлігійных пачуцьцяў. Іхнія высокія мастацкія вартасьці паказваюць, што аўтар меў немалыя паэтычныя здольнасьці. Гэта асабліва відаць у Малебным Каноне. Дзеля гэтага сьв. Кірылу Тураўскаму справядліва належыцца гонар быць першым і найвялікшым з усіх беларускіх старажытных паэтаў.

Высокія духовыя і мастацкія якасьці малітваў і канонаў сьв. Кірыла былі прызнаныя ўсімі, хто меў нагоду пазнаёміцца з імі бліжэй. Нават Галубінскі, звычайна вельмі скупы на пахвалы, прызнае, што «адносна малітваў Кірыла Тураўскага, дык яны прадстаўляюць сабою надзвычай добрыя аратарскія творы, якія з усёй справядлівасьцю павінны заняць месца сярод найлепшых малітваў грэцкіх аўтараў».[40] Япіскап Макары аказаўся больш шчодрым у сваіх пахвалах: «Паводля стылю і зьместу, як канон, так і малітвы павінны быць залічаныя да найлепшых твораў гэтага роду, якія толькі існуюць у Праваслаўнай Царкве».[41] На Беларусі малітвы сьв. Кірыла былі настолькі папулярнымі, што ў канцы 16-га і першай палове 17-га стагодзьдзяў яны выдаваліся некалькі разоў друкам разам з выбранымі малітвамі розных грэцкіх Айцоў Царквы.[42]

Хоць, як ужо было сказана раней, малітвы сьв. Кірыла і ягоны канон ёсьць пакутныя па свайму зьместу, аднак у іх усюды выступае бесканечнае міласердзе Божае і Ягоная любоў да людзей, якія, як дзьве зоркі, зьзяюць сьвятлом надзеі для грэшніка і не даюць яму ўпасьці ў роспач. Дзеля гэтага мы можам назваць сьвятога Кірыла Тураўскага «Пяўцом Божага Міласердзя».

*(Далей будзе)*

---

[39] Другім ведамым канонам сьв. Кірыла ёсьць канон у гонар сьв. Ольгі, бабкі сьв. Уладзіміра, якая прыняла Хрысьціянства ў 954 г. Рукапіс канону быў знойдзены і ўпершыню апублікованы Нікольскім у 1907 г. (Никольский, ор. cit. бб. 88-94). Ерэмін уважае, што няма прычыны сумнявацца ў аўтэнтычнасьці твору (Еремин, ор. cit. б. 364). Магчыма Кірыл напісаў гэты канон з нагоды залічэньня Ольгі да ліку сьвятых і такім чынам ён нам дае прыблізную дату ейнае кананізацыі. Як трэба было спадзявацца, тон канону ёсьць урачысты і радасны, хоць з мастацкага пункту гледжаньня ён слабейшы ад Канону Малебнага. Вось ягоная першая песьня:

*Ірмас.* «Гордага Фараона з зброяю і коньнікамі Ты патапіў, а Ізраіля ўславіў і, правёўшы па сушы, збавіў. Пяем песьню Хрысту, бо Ён слаўны назьдзіў.

Ты — наша веліч і слава, Ольга багамудрая: табою мы вызваліліся ад ідальскай спакусы. Сяньня маліся за род і людзей, якіх ты прывяла да Бога. Пяем песьню Хрысту, бо Ён слаўны назьдзіў.

Пышлівага чорта ты з Русі прагнала і бязчэсныя ідалы разрушыла, і ўсіх людзей ад беззаконьня вызваліла, мудра навучаючы іх. Пяем песьню Хрысту, бо Ён слаўны назьдзіў.

Цемру грахоўную ты хростам абмыла і, адкінуўшы тленную нячыстасьць, Хрыста палюбіла: будучы цяпер разам з Ім, маліся за тых, якія вераю славяць цябе.

Ісаія Цябе жэзлам называе, Давід — тронам, Авакум — пакрытаю гарою, Майсей — кустом вогненным: мы-ж Цябе называем Багародзіцай».

У аднэй з вэрсіяў жыцьця сьв. Кірыла ў Пралёгу ўспамінаецца яшчэ ягоны «Вялікі Пакаянны Канон Госпаду паводле літараў альфабату» (гл. Творения, б. 296). Тэкст гэтага твору аднак не захаваўся.

[40] Гл. Е. Е. Голубинский, История Русской Церкви, том I, поетом I, Масква 1901, б. 841.

[41] Гл. Макарий, Сьвятой Кирилл еп. Туровский, как писатель. Исторические Чтения по языку и словесности Имп. Ак. Наук, Пецарбург 1857, б. 165.

[42] Вось поўны назоў кнігі ў тлумачэньні на сучасую беларускую мову: «Малітвы штодзённыя многіх сьвятых айцоў і настаўнікаў Царквы Хрыстовай, выбраныя ў кароткасьці з грэцкага пісьма; і іншыя малітвы на ўвесь тыдзень сьвятога манаха Кірыла». Кніга вышла ў Вільні і мела прынамсь восем выданьняў між 1596 і 1635 г.



*Бачынка з кнігі «Штодзённыя Малітвы» і пачатак адной малітвы св. Кірыла Тураўскага*

*Г. Піхура*

# Богдан Анісімовіч

Дабравешчанскі манастыр у Супрасьлі, які на працягу вякоў быў адным з найважнейшых беларускіх рэлігійных і культурных асяродкаў, перажываў сваю «залатую пару» у 16-тым стагодзьдзі.

Супрасьль ляжыць у ціхай мясцовасьці над Ракой Нарвай сярод сасновых лясоў і зьяўляецца ідэальным месцам для тых, што шукаюць адзіноты і жадаюць уцячы ад шуму гэтага сьвету. Манастыр паўстаў там яшчэ ў сярэднявеччы. Ён быў заложаны пустэльнікамі, многія з якіх прышлі туды з Кіева-Пячэрскай лаўры. У 1509-тым годзе князь Аляксандар Хадкевіч збудаваў там мураваную царкву, якая сталася адным з найбольш выдатных помнікаў беларускага бізантыйска-гатыцкага мастацтва. Пад апекаю Хадкевічаў манастыр хутка разрастаўся. Ужо ў 1536-тым годзе архімандрыт Сяргей Кімбар у пісьме да Кіеўскага Мітрапаліта Макара II мог паказаць на пэўныя літургічныя асаблівасьці, якія панавалі ў Супрасьлі і якія розьніліся ад абычаяў у іншых цэрквах Кіеўскай Мітраполіі.[1] У палове 16-га стагодзьдзя ў Супрасьлі квітнела школа іканапісу і ў 1558-ым годзе манастырская царква была ўпрыгожаная фрэскамі, магчыма пад кіраўніцтвам сэрбскага майстра.[2] Манастыр мог таксама пахваліцца вялікай на той час бібліятэкай, якая мела больш чым 200 рукапісных кнігаў

[1] Гл. *А. Ф. Коршуноў,* Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры. Мінск 1959, бб. 161—168.

[2] *Г. П.,* Аднаўленьне супрасьльскіх фрэскаў. «Божым Шляхам» № 84, 1964, б. 6.

у славянскай, грэцкай і лацінскай мовах.[3] Узяўшы ўсё гэта пад увагу, няма дзіва, што Супрасьльскі манастыр быў таксама вялікім асяродкам беларускай царкоўнай музыкі.

Існуе даволі шмат літургічных музычных зборнікаў, перапісаных супрасьльскімі манахамі.[4] Іхняя арыгінальнасьць і мастацкая вартасьць ёсьць аднак вельмі малая ў параўнаньні з Супрасьльскім Ірмалёгіянам. Гэты вялікі твор, які мае аж 700 балонак, быў уложаны манахам Богданам Анісімовічам. Весткі аб жыцьці гэтага цікавага чалавека ёсьць вельмі скупыя. З зацемкі ў Ірмалёгіяне ведама, што ён паходзіў з Пінску. Калі прыняць, што Ірмалёгіян быў творам сьпелага і дасьведчанага музыкаведа, дык трэба прыпушчаць, што Анісімовіч радзіўся недзе ў палове 16-га стагодзьдзя. Вельмі магчыма, што праз нейкі час ён жыў у аколіцах Міра. Пасьля ён уступіў у Супрасьльскі манастыр, пасьвяціў сваё жыцьцё працы ў галіне рэлігійнай музыкі і мастацтва. У 1572-гім годзе манастыр быў спустошаны эпідэміяй. З агульнага ліку 32-х манахаў толькі 12 асталіся жывымі. Гэты лік астаўся нязьменным аж да 1609-га году.[5]

Богдан Анісімовіч закончыў свой Magnum Opus у 1601-шым годзе, калі архімандрытам быў князь Ілярыён Масальскі. Дата і абставіны ягонай сьмерці ёсьць няведамыя.

Ня гледзячы на скупасьць вестак аб Анісімовічу, мы ўсё-ж можам, паводле словаў Андрэя Рымшы, пазнаць чалавека з ягоных твораў. Кароткія зацемкі на палях Ірмалёгіяну і сам характар твору гавораць шмат аб аўтары.

Анісімовіч адзначаўся навуковым падыходам у трактоўцы свайго прадмету. Ён заўсёды падаваў свае крыніцы і на палях кнігі акуратна аднатоўваў паходжаньне напеваў. Ён быў асабліва гордым з напеваў свайго Супрасьльскага манастыра і заўсёды папярэджваў запіс кожнай песьні загалоўкам тыпу: «сей поем напелу супраслского», або «сеже есть напелу монастыря супраслского», ці проста «М. С.» (г. зн. манастыра супрасьлскага). Іншыя напевы маюць загалоўкі: «На проводе мирском», «Херубик гласа перваго по грецку», «Знаменны» і т. д.

Грэцкая царкоўная музыка вельмі цікавіла Анісімовіча. Магчыма частыя зносіны Супрасьлі з Балканамі адыгралі тут пэўную ролю. У сваім Ірмалёгіяне ён падае шмат грэцкіх напеваў («грецкій напел») разам з тэкстамі ў грэцкай мове. Сярод іх ёсьць тры херувімскія песьні і адзін «Потырыён Сотырыю» (чашу спасеньня). Асабліва адна херувімская песьня зрабіла на Анісімовіча вялікае ўражаньне. Ён кажа, што «цари городскій» напеў гэтай песьні ёсьць «зело красный» і што ён быў запісаны ў 1593-цім годзе ад патрыяршага сьпевака.[6]

У зацемцы да «Падобных» Анісімовіч выражае сваё прызнаньне майстру «І. Т.», які ўжо раней «акуратна запісаў супрасьльскія напевы». Вельмі цяжка знайсьці другі такі ірмалёгіян, дзе-б было столькі прывабных асабістых заўвагаў.

Анісімовіч быў без сумніву вялікім эстэтам. Ён вельмі любіў і добра ведаў музыку, — асабліва музыку роднага краю, — хоць ня можна з упэўненасьцю сьцьвердзіць, ці ён быў арыгінальным кампазытарам. Анісімовіч выказаў таксама немалыя здольнасьці ў галіне ўпрыгожаньня рукапісаў. Ягоныя манахромныя мініятуры ёсьць настолькі далікатна і прыгожа выкананыя, што іх можна параўнаць з найлепшымі гравюрамі Скарыны. Ён меў між іншым высокае паняцьце аб мастацкіх здольнасьцях гэтага апошняга і нават ужыў дзеля ўпрыгожаньня першай бачынкі свайго Ірмалёгіяну Скарынаў гэрб (сонца і поўмесяц), выразаўшы яго аднекуль. З каляровых упрыгожаньняў і мініятураў у ягонай кнізе відаць, што Анісімовіч меў тонкае вычуцьцё колеру. Ён намаляваў сем каляровых мініятураў, сярод іх надзвычай прыгожы трыптык з выабражэньнямі сьвятых Рамана, Васіля і Давіда. Усе мастацкія творы Анісімовіча былі выкананыя ў чыстым бізантыйскім стылю і зьяўляюцца вымоўным доказам высокага ўзроўню, якога дасягнулі беларускія мініятурысты і іканапісцы ў тым часе.

Ірмалёгіян Анісімовіча мае таксама пэўную філялягічную вартасьць, як заўважыў у сваім часе Карскі.[7] Многія зацемкі ў кнізе былі напісаныя на беларускай мове 16-га стагодзьдзя. Стараславянская і беларуская мовы чаргаваліся ў загалоўках бачынак. Так напрыклад, «греческій роспев» часта замяняецца праз «грецкій напел». Гэта надзвычай рэдкае зьявішча ў ірмалёгіянах таго часу.

---

[3] Архимандрит *Николай (Долматов),* Супраслский Благовещенский монастырь. СПб. 1892, бб. 58—61.

[4] Шмат супрасьлскіх ірмалёгіянаў — ня ўсе з якіх аднак напісаныя у Супрасьлі — успамінае *А Лебедев* у сваей працы: Рукописи Церковно-археологического Музея Императорской Киевской Духовной Академии. Саратов 1916.

[5] Архим. *Николай,* op. cit., б. 48.

[6] *Г. Піхура,* Царкоўная музыка на Беларусі. «Божым Шляхам», № 3, 1964, б. 11.

[7] *Е. Карский,* Белоруссы, т. I, ч. I, Варшава 1903.

Усе вышэй успомненыя асаблівасьці выдзяляюць Супрасьльскі Ірмалёгіян з масы іншых ірмалёгіянаў, якія паявіліся ў тым часе на Беларусі і Украіне. Пераважная большасьць гэтых апошніх былі творамі звычайных перапішчыкаў і не адзначаліся нічым асаблівым. Яны былі напісаныя скорапісам і без ніякіх упрыгожаньняў. Адносна-ж зьместу, дык у іх знайходзіліся найбольш патрэбныя напевы «Кіеўска-Літоўскага» расьпеву — ірмасы, падобныя, сьціхіры, сьцяпенныя, антыфаны і, часам, некалькі песьняў з вячэрняй службы. Відаць, што заданьнем гэтых ірмалёгіянаў было задаволіць патрэбы прыхадзкіх псаломшчыкаў і дзякоў. Супрасьлскі Ірмалёгіян носіць зусім адменны характар і было-б несправядлівым назваць Анісімовіча звычайным перапішчыкам. Перадусім ягоны твор мае вялікую дакумантальную вартасьць. Выглядае, быццам аўтар сьвядома хацеў захаваць для будучыні рэдкія і цікавыя напевы свайго краю. Большая частка запісаных ім напеваў зусім адсутнічае ў іншых ірмалёгіянах. Гэта асабліва датычыць напеваў Супрасьльскіх і Мірскіх. Акрамя гэтага Анісімовіч уключыў у склад свайго твору напевы на розныя нагоды і ўрачыстасьці, якія звычайна не ўвайходзяць у склад ірмалёгіяну, напр. песьні на Літургіі сьв. Васіля Вялікага, на Літургіі раней пасьвячаных Дароў, на службы Вялікага Тыдня, на Вялікдзень, паніхіду і т. д. Большасьць гэтых песьняў Анісімовіч памясціў у частцы кнігі, якой ён даў назоў «Демественны».[8]

Напевы ірмасавага кругу ў Творы Анісімовіча, а таксама некалькі іншых песьняў, як напрыклад «О Тебе радуется», маюць вялікую цікавасьць. Будучы менш «квяцістымі», чым звычайныя «Кіеўска-Літоўскія» напевы 16—17-га стагодзьдзяў, яны аснованыя на старым сярэднявяковым знаменным расьпеве. Беларускія ірмалёгіяны з роспісамі старога знаменнага расьпеву зьяўляюцца вялікай рэдкасьцю.

*Ірмас 5-га тону*
*Супрасьльскі знаменны расьпеў (I):*
*Маскоўскі знаменны расьпеў (II).*




Песьні гэтага расьпеву адзначаюцца ўрачыстай павагай і прастатой, якая робіць вялікае ўражаньне. Пры нагодзе варта заўважыць, што магчыма Анісімовіч быў першым, які запісаў гэты расьпеў пры помачы заходняга (лінейнага) музычнага запісу.

Ні Супрасьлскі, ні «Кіеўска-Літоўскі» расьпевы ня маюць прастаты і павагі знаменнага. Гэты апошні быў творам сярэднявечча і страціў папулярнасьць з прыходам больш «квяцістай» музыкі часу Адраджэньня. У пазьнейшых ірмалёгіянах знаменны расьпеў не спатыкаецца амаль зусім, ды і сам назоў «знаменны» вышаў практычна з ужытку на Беларусі у 17-тым стагодзьдзі.[9] Было-б цікава ведаць, чаму параўнаўча просты знаменны расьпеў, лёгкі для гарманізацыі, быў выцісьнены з ужытку больш складаным расьпевам «Кіеўска-Літоўскім» якраз у тым часе, калі паліфонія («іскусное пение») пачала ўсё больш і больш распаўсюджвацца. Магчыма ні адзін ні другі расьпевы ня былі прызначаныя для гарманізацыі, да якой была выкарыстаная паўстаўшая пазьней група народных напеваў. Гэтыя народныя напевы маглі, безумоўна, разьвіцца на аснове знаменнага ці якога іншага пазьнейшага расьпеву, упрошчанага і прыстасаванага да ўжытку ў прыхадзкіх хорах на некалькі галасоў.[10] Гэта, між іншым, здаецца здарылася на Украіне, дзе папулярны расьпеў Кіева-пячэрскай лаўры разьвіўся з вельмі складаных напеваў Львоўскага Ірмалёгіяна (1700 г.).[11] Да сяньняшняга дня ў Галіцыі — дзе царкоўныя абычаі мала розьняцца ад абычаяў, якія панавалі раней на Беларусі — ёсьць звычайным зьявішчам бачыць, як дзяк сьпявае напевы ірмасавага кругу, другі голас падцягвае яму лёгка «на самуілку», а увесь народ пяе нязьменныя часткі вячэрні і уутрані, як «Сьвеце ціхі», «Хваліце Імя Гасподне» і т. д.

Супрасьльскі і «Кіеўска-Літоўскі» напевы сьпяваліся унісонам. Ды інакш і не магло быць у манастыры, які меў толькі 12 манахаў, з якіх напэўна ня ўсе былі вялікімі сьпевакамі. Вельмі магчыма, што захапленьне «квяцістымі» і чужымі грэцкімі напевамі было вынікам патрэбы змагацца з спакусай

[8] *Г. Піхура*, op. cit., бач. 13.

[9] Беларускі знаменны расьпеў прадаўжаў жыць у крыху зьмененай хворме ў «Кіева-Літоўскім» расьпеве ў XVII—XVIII стаг. Трэба памятаць, што «кіеўска-літоўскія» напевы ўзялі свой пачатак з г. зв. «паўднёва-заходняга» расьпеву. Гл. *И. Вознесенский,* Церковное пение православной юго-западной Руси. Москва 1898, вып. I, бб. 15 і 36; таксама *Г. Піхура*, op. cit., б. 10.

[10] *И. Вознесенский*, op. cit., б. 35.

[11] *Д. Малашкин*, Нотный обиход Киево-Печерской Успенской Лавры. Предисловие. Кіеў 1885.

лацінськай паліфоніі.[12] Калі-ж гэта не дало жаданых вынікаў, наступіў паварот да больш прывабных простых напеваў, якія аднак пачалі гарманізаваць нават у манастырах.

Такім чынам гарманізацыя была ўжо вельмі пашыраная у 16-тым стагодзьдзі сярод праваслаўных на Беларусі і Ўкраіне. Дзеля гэтага Супрасьльскі Ірмалёгіян робіць уражаньне твору абаронцы старасьвецкіх абычаяў, які, так сказаць, плыў супроць агульнага цячэньня. З другой стараны магчыма Анісімовіч хацеў толькі пакінуць для будучых пакаленьняў памяць аб абычаях, ўжо ў ягоным часе выйшлі з ужытку. Першае прыпушчэньне выдаецца больш праўдападобным, бо беларускія праваслаўныя манастыры былі ведамыя з свайго кансэрватызму, які ў Супрасьлі быў яшчэ падмацаваны асаблівым геаграфічным паложаньнем манастыра. Няма ніякіх падставаў думаць, што паліфонія і унісон праз нейкі час мірна суіснавалі ў беларускіх манастырах, як гэта было на Захадзе.[13]

«Падобныя» ў Супрасьльскім Ірмалёгіяне былі запісаныя не самім Анісімовічам, але, як ужо было сказана вышэй, ён іх узяў з запісаў нейкага іншага манаха, ведамага толькі з ініцыялаў «І. Т.». Хто быў гэты І. Т. — няведама. Праўдападобна ён быў таксама манахам у Супрасьлі і магчыма паў ахвяраю эпідэміі ў 1572 г. Сабраныя ім «падобныя» былі напэўна ў штодзённым карыстаньні ў манастыры. На Беларусі і Ўкраіне «падобныя» служылі звычайна ня толькі для сьпяваньня сьціхіраў, але таксама і для песьняў у часе сьв. Літургіі, як напр. Херувімская.[14] Магчыма «падобныя» запісаныя І. Т. служылі таксама для гэтай мэты.

*Нясьвіжскі запіс (I) і Супрасьльскі запіс (II)*



Супрасьльскі Ірмалёгіян мае яшчэ адну цікавую сваеасаблівасьць: ня гледзячы на свой кансэрватызм у галіне напеваў, ён зьяўляецца адным з першых — а магчыма першым — прыкладаў ужываньня заходняга нотнага запісу ў усходня-славянскіх літургічных кнігах.[15] Ня можна абсалютна сьцьвердзіць, што Анісімовіч быў адзіным пачынальнікам у гэтым: лінейны запіс спатыкаецца таксама і ў Кракаўскім Ірмалёгіяне Матылевіча, які паходзіць прыблізна з таго самага часу, што і Супрасьлскі, хоць магчыма ёсьць крыху пазьнейшым за гэты апошні. У кожным выпадку Супрасьлскі Ірмалёгіян вызначае пераход ад нэўматычнага запісу — які спатыкаецца напр. у супрасьльскіх перапісчыкаў з паловы 16-га стаг. і ў Ірмалёгіяне Бэнэдыктовіча (Codex Peremysliensis) — да заходняга.[16] Магчыма працэс пашырэньня лінейнага запісу быў паступовы і пачаўся ўжо раней. Пэўную ролю тут мог адыграць кальвіньскі катэхізм выданы ў Нясьвіжы ў 1562 годзе з ягонымі кантычкамі.[17] У Супрасьлі лінейны запіс быў напэўна няведамы да паловы 16-га стагодзьдзя. У каталёгу супрасьльскай бібліятэкі, зробленай архімандрытам Сяргеям Кімбарам ў 1551-ым годзе, значацца чатыры ірмалёгіяны, усе напісаныя знаменным запісам.[18] Такім чынам пакуль ня знойдуцца іншыя дакуманты, пяршынство ўвядзеньня заходняга нотнага запісу ў усходня-славянскую царкоўную музыку належыцца Богдану Анісімовічу. З ягонага запісу разьвіўся барокавы лінейны запіс, які мы спатыкаем у Жыровіцкім Ірмалёгіяне з 1660 г., а таксама ў друкаванай хворме ў Львоўскім Ірмалёгіяне з 1700 г. Лінейная натацыя Маскоўскага Абыходу з 1772 г. таксама сягае сваімі пачаткамі да запісу Анісімовіча.

Супрасьлскі Ірмалёгіян зьяўляецца багатай скарбніцай беларускіх нацыянальных царкоўных напеваў і вымоўна сьведчыць аб арыгінальнасьці і вялікім уздыме беларускіх музычных дасягненьняў у канцы сярэднявечча. Як мастак і як музыкавед, Багдан Анісімовіч павінен лічыцца адным з найбольш выдатных прадстаўнікоў беларускай культуры 16-га стагодзьдзя.

---

[12] Некаторыя дасьледчыкі думалі, што грэцкія напевы былі няведамымі на Беларусі і Ўкраіне ў XVII-тым стаг. (*Вознесенский*, op. cit., б. 19). Сяньня ня можна больш пагадзіцца з гэтым поглядам.

[13] Пацьверджаньне гэтага погляду мы знайходзім у Паўла з Алеппо, які наведаў Кіеў у палове XVII-га стаг. Паводле яго, у кіеўскіх цэрквах можна было пачуць паліфонію, арганную музыку, унісон і грэцкія напевы ў часе аднэй і тэй самай царкоўнай службы.

(Deacon Paul of Aleppo, Voyage of Patriarch Makarios of Antioch, transl. by Basile Radu. Patrologia Orientalis, Vol. 26, Fasc. 5, p. 31).

[14] Гл. Пачаеўскі Ірмалёгіян з 1794 г., фоліё 119 verso.

[15] Гл. *А. Преображенский,* Краткий очерк истории церковного пения в России. СПб. 1910.

[16] G. Pichura, Monuments of Byelorussian Church Music. Eastern Churches Quarterly, Vol. 16, London 1962, pp. 411—412.

[17] *И. Вознесенский,* op. cit., б. 22.

[18] Архим. *Николай,* op. cit., б. 60.

*Багародзічны «на проводе Мирском»*




*«Сій стих поется в великій пост на часах напелу М. С.»*




*«Заупокой М. С.»*



# Што такое «Уніяцтва»?

Хаця некаторыя беларусы жадалі-б наш часапіс называць уніяцкім, і то ў значэньні праваслаўных палемістаў, прызнаёмся, што мы самі замала пішам аб уніі. Асабліва блізу зусім няма ў нас сьціслa навуковых працаў. Займаліся і займаюцца гістарычнай уніяй расейцы, палякі, украінцы, а нават немцы, французы і італьянцы. Беларусы, за выняткам «Беларускай Царквы» ў Чыкаго, задавольняюцца маўчаньнем; а праціўнікі паўтараюць ведамыя закіды супраць уніі, узятыя звычайна з вуснаў ворагаў усяго таго, што было нашым беларускім мінулым.

Ім на дапамогу прыходзяць і савецкія пісакі. Для гэтых лёгіка простая: «добра рабіў цар Мікалай I, касуючы унію на Беларусі (1839); а таксама і Сталін, зьнішчаючы яе ў Заходняй Украіне (1946)»! Як цар Мікалай гэтак і Сталін не заганялі адразу уніятаў у бязбожжа, але толькі ў царкву — сынадальную і сталінскую . . .

Хаця прайшло шмат часу ад зьнішчэньня уніі на Беларусі, аднак у савецкай прэсе ўсьцяж аб той уніі пішуць, усьцяж яе лаюць, дык чытаючы ўсё гэта, атрымліваецца ўражаньне, быццам унія яшчэ жывая, магутная, якую ніяк ня можна ўсьмерціць.

Вось нядаўна зьявіліся артыкулы ў «Полымя» (№ 12, 1965) Прашковіча, а два месяцы пазьней моцная крытыка таго-ж Прашковіча, Люкевічам і Трашчонкам, асьпірантамі Бел. Дзярж. Унівэрсытэту. Гэтым двом дае цікавы адказ Мікола Алексютовіч («Полымя», № 5, 1966). Адначасова ў часапісе «Наука і Рэлігія» (№ 5, 1966) знаходзім артыкул «Што такое уніяцтва?».

I вось трэба заўважыць наступнае: некаторыя бел. савецкія аўтары асьмеліліся глянуць на унію іншымі позіркамі, чымся дагэтуль уся расейская праваслаўная палемічная літаратура. Яны назвалі ініцыятараў уніі «найбольш прадбачлівымі людзьмі», а самую унію прагрэсыўнай думкаю таго часу!

Ці тут не зашмат сказана, як на «прагрэсыўную» савецкую навуку, дзе большую ролю ў ёй адыгрываюць загады і наказы партыі чым сапраўдныя крытэрыі навукі?

Таму, каб стушаваць тыя адважныя погляды аб уніі, як пазытыўнае зьявішча ў гісторыі Беларусі, атэістычны часапіс «Наука и Религия» паўтарае старыя паклёпы на унію праваслаўных «казённых» аўтараў, дадаўшы яшчэ і марксістоўскія.

Паводле гэтага часапісу — унія — гэта рэлігія для прыгнечаных украінцаў і беларусаў, якую ўвялі езуіты, польскі кароль Жыгімонт III, польскія і літоўскія магнаты разам зь некаторымі праваслаўнымі ўладыкамі. Унія — кажуць — прышчэплівалася сярод беларусаў агнём і мячом, чаго доказам сьмерць сьв. Іозафата Кунцэвіча ў Віцебску ў 1623 г. (Але-ж не Кунцэвіч прычыняў каму сьмерць, а сам быў зарубаны мячамі і сякерамі ў сваім доме праціўнікамі уніі!).

Савецкі аўтар не забыўся такжа і аб Мітрапаліце Андрэю Шэптыцкім, які «больш чым паўвеку тварыў сваё чорнае дзела цёмны апостал уніі». Ён-жа якобы супрацоўнічаў з гітлероўцамі ў часе апошняе вайны.

Усё, што «Навука і Рэлігія» напісала аб уніі, пацьвярджае, што гэты часапіс вельмі-ж мала, або й нічога ня мае супольнага ні з навукаю, ні з рэлігіяй. Ён кідае голыя пустасловы, нават не прабуе пацьвердзіць свае тэзы ніякімі доказамі. Аўтар настроены варожа да уніі, але ягоная варожасьць сягае глыбей: унія — зьявішча беларускае і ўкраінскае, а не расейскае. Таму савецкія аўтары, падобна, як калісьці царскія, праліваюць кракадзілавыя сьлёзы над беларускім селянінам, якога быццам гнобіла унія.

Аб тым, што цар пасылаў беларусаў за унію на Сібір, што Сталін тое самае рабіў з украінцамі, савецкія аўтары не гавораць. А гэта-ж усё рабілася — о, іронія! — у імя абароны праваслаўя.

Хаця сяньня афіцыяльна на Беларусі і Украіне унія ня існуе, аднак яе ідэя — ідэя няўміручая злучэньня хрысьціян — жыве і яна зганяе сон з вачэй бязбожных камуністаў.

А тыя галасы — адзінокія і вельмі нясьмелыя, што асьмеліваюцца бараніць унію у савецкай прэсе, панукаюць і нас перадумаць нашыя адносіны да нацыянальнай калісьці беларускай Царквы.

*Я. Савіцкі*

# У Гальшанах

Гальшаны — мястэчка адно з найстарэйшых у Вялікай Літве: з гэтуль выводзіліся калісьці князі ГОЛЬШЫ і з гэтага роду была 4-ая жонка Ягайлы. Помнікам князёў Гальшанскіх астаецца слаўнае Гарадзішча, якое дасюль красуецца ля шляху, што вядзе з Гальшан праз Барунскую вуліцу і праз м-ка Баруны ў Крэва, у 2-х кілямэтрах ад Гальшан. Гарадзішча было ўладжана ў ланцугу ўзгор'яў, што носіць назову «Ашмянскі Горб», на высокім узгорку: выглядае вельмі маестатычна, ў форме вулькану. Пасьля Гольшаў Гальшаны перайшлі пад уладу князёў роду Сапегаў. У 1618 г. Павал Сапега закончыў будову касьцёлу ў рэнэсансовым стылі: сьвятыня вельмі паважная і прыгожая, высокая. Арыгінальная тым, што не мае вежаў, аднак такой вышыні, што відаць яе навакол на 5 зь лішнім клм, хоць збудавана не на самым высокім мейсцы ў мястэчку. Гэтакі касьцёл быў-бы бяз сумніву аздобай вялікай сталіцы Вільні, нават сваім стылям падыходзіць да касьцёла сьв. Міхала ў Вільні і касьц. сьв. Тройцы ў Друі, ды якраз усе гэтыя касьцёлы належылі да фундацыі Сапегаў. (Цяпер усе гэтыя тры сьвятыні ператвораныя бальшавікамі ў склады, запушчаны і прыходзяць у зьнішчэньне).

Апрача касьцёлу, у Гальшанах асталіся вельмі прыгожыя, стылёвыя палацы Сапегаў. Пасьля Сапегаў маемасьць Гальшанаў перайшла да Корсакаў, а пасьля паўстаньня 1863 г. былі перададзены генэралу расейцу Горбанёву, а пасьля да расейца памешчыка Ягміна.

Яшчэ за маей памяці па рагох паседласьці стаялі 4-ы высокія вежы, якія памешчык разбурыў у пачатку нашага стагодзьдзя. Я сам аглядаў, будучы хлапчуком, вялікую і высокую капліцу, на рагу палацаў: на жаль, капліца, якая магла быць досыць значным касьцёлам, была абернена на драўляны склад, запушчана, без вакон і дзьвярэй. Яшчэ можна было бачыць сьляды цудоўных малюнкаў на сьценах.

І нязьмерна сумна, што такія цэнныя археолёгічныя помнікі пайшлі ў поўнае зьнішчэньне па віне някультурных уладаў — так царскае, як і савецкае!

У Гальшанскім касьцеле было 8 аўтароў: за вялікім аўтаром — гладкая сьцяна аж да самага верху была размалявана ў стылі рэнэсансавым. Як мама прыводзіла мяне да касьцёла, я ўвесь час заглядаўся на прыгожыя малюнкі — на тых анёлаў, што па ступеньках ступалі да неба і на таго чалавека, што пісаў гусіным пяром у кнізе (гэта Апостал Ян пісаў Эвангельле). Пасьля нейкія пэцкалі перамалявалі ўсю сьцяну і замалявалі майго ўлюбленага Апостала!

З касьцёлам быў злучаны мураваны кляштар айцоў Францішканцаў. Калі былі манахі разагнаны (пасьля 1863 г.), у кляштары стаяла войска да 1897 г. Пасьля там была царкоўная праваслаўная школа для дзяўчат. Як прыйшлі немцы ў 1915 г., там заснавалі ваенны лазарэт, бо фронт стаяў у 10-ці клм. ад мястэчка. Палякі аддалі кляштар польскім манашкам, якіх выгналі бальшавікі ў 1939 г.

*Я. Г.*

---

## *Сэнс жыцьця*

*Жыцьцём сёньняшнім мы нудзімся,*
*З надзеяй заўтра лепшага мы будзімся:*
*А ўсьцяж, як сёньня так учора,*
*Жыцьцё напоўнена тугі і гора.*

*Кажам — варта жыць, далей жывём;*
*А што ў запраўднасьці жыцьцём завём, —*
*Днёў шэрых зьмест, што паўтараецца,*
*Ці мінуўшчыну, што не вяртаецца?*

*Хто будзе з нас так мудры й скажа —*
*Жыцьця загадку нам разьвяжа?*
*К жыцьцю шчасьліваму — да зор,*
*Пакажа шлях і дасьць узор? . .*

*У блудным коле нашага жыцьця*
*Ня знойдзем мы адпачыцьця,*
*Калі ня знойдзем ідэалу й веры*
*У Таго, хто адкрывае ў жыцьцё дзьверы.*

Нямеччына, 1966.

Ч. К.

# З лістоў у рэдакцыю

ПАВАЖАНАЯ РЭДАКЦЫЯ
«БОЖЫМ ШЛЯХАМ»!

Прашу памясьціць гэтыя весткі аб княгіні Магдалене Радзівіл і аб беларускай мове ў сьвятынях.

Найперш памяшчаем апісаньне ў беларускім перакладзе з польскае кніжкі кс. Фр. Руткоўскага, як візытаваў Арцыбіскуп В. Ключынскі беларускія парахвіі:[1]

*— У 1912 г. Вінцэнты Ключынскі, Магілёўскі Мітрапаліт, візытаваў Меншчыну. Цікавы здарыўся выпадак пры візытацыі парахвіі Сэрафін у Ігумэнскім павеце.*

*— Перад набажэнствам зьявілася ў Мітрапаліта дэлегацыя мясцовых парахвіянаў з просьбай, каб пазволіў пабудаваць новы касьцёл. У Сэрафіне быў касьцёл з 1762 г. прысьвячаны сьв. Антоняму Падэўскаму, аднак ён ня мог здаволіць патрэбы вернікаў.*

*— Дэлегацыя пры гэтым выказала сваё жаданьне, каб у нова збудаваным касьцеле — пры гэтак называных «дадатковых набажэнствах» — была ўжываная вылучна беларуская мова.*

*— «А чаму гэта?», спытаў Арцыбіскуп дэлегатаў, «Ці сапраўды жадаеце беларускай мовы? Вы-ж да мяне гаворыце па польску».*

*«Не, мы не жадаем беларускай мовы, але княгіня вымагае, каб мы так гаварылі!»*

Аўтар гэтага расказу Кс. Францішак Руткоўскі быў у тым часе капэлянам Мітрапаліта Ключынскага і сьведкам гэтага здарэньня, якое апісаў у сваей кніжцы. Будучы сам вузкім польскім нацыяналістам, далей высказываецца гэтак:

*— Трэба тут адзначыць, што княгіня Магдалена Радзівіл, з дому Кежгайло-Завіша, была русацяпкай і ворагам усялякай польскай ініцыятывы на Усходніх Землях (на «Kresach Wschodnich»). Дасканала аб гэтым ведаў Архіпастыр. А таму, што яна перш зьвярнулася да капэляна Архібіскупа і праз яго паведаміла, што жадае збудаваць касьцёл, але вылучна з мовай толькі беларускай, тады Архібіскуп, сказаўшы ў часе сумы (урачыстай літургіі) казаньне па польску, запытаў, ці яго ўсе разумелі? Усе прысутныя адклікнуліся па польску ў голас:*

*«Вельмі добра зразумелі кажнае слова!»*

*«Але можа ёсьць тут нехта (княгіня Радзівіл сядзела ў прэзьбітэрыі), хто не зразумеў?», спытаўся ізноў выразна Архібіскуп.*

*«Няма такіх», адгукнуліся людзі.*

*— Княгіня Радзівіл, якая няраз цьвярдзіла, што «тут ніхто па польску не разумее», сьпешна вылецела з касьцёла, пакінуўшы намер асабістай гутаркі з Арцыбіскупам, аб чым перш дапрошвалася. Гэты факт і шмат яму падобных сьведчыць, як добра Архібіскуп ар'ентаваўся ў касьцельных справах і ў нацыянальных адносінах . . .*[2]

Мы не маемо іншых жаролаў, каб праверыць расказ гэтага заўзятага нацыяналіста. Аднак ня можам сумнявацца, што галоўныя факты ён апісаў праўдзіва: Мітрапаліт візытаваў Сэрафін, дэлегацыя беларусаў у яго была і прасіла дазволу будаваць касьцёл і ўвесьці беларускую мову . . . І пэўна, што за плячамі дэлегацыі стаяла магнатка М. Радзівіл. Княгіня сваім коштам жадала збудаваць касьцёл, дык вымагала, каб у сэрцы Беларусі ўладавала беларуская мова.

Ці княгіня мела на гэта права?

Ці-ж можна ў гэтым сумневацца? . .

А ведама, што беларусаў Ігуменшчыны апалячвалі праз касьцёл доўгімі гадамі, таму няма нічога дзіўнога, што яны ўсе, (прынамсі тыя, што хадзілі часьцей у касьцёл) так-сяк разумелі па польску, або хоць думалі, што разумеюць. І магчыма, што сярод іх было крыху і сапраўдных палякаў, якія моцна стаялі за польскую мову ў сьвятыні і голасна аб гэтым крычалі; дык ня дзіва, што разам з гэтымі і маласьведамыя беларусы адказвалі ў тон паляка Архібіскупа супраць жаданьня княгіні Радзівіл.

Аднак княгіня належна дамагалася свайго і народнага права.

Накінуты беларусам польскі пакост пры першым подыху бязбожнай рэвалюцыі зьнік цалкам, а ў душах беларусаў, што ўсё сьвятое прыймалі дасюль у чужой мове, а таму і не разумелі глыбей хрыстовых праўдаў, асталася нічым не запоўненая пустэча.

Усюды, дзе працавалі польскія ксяндзы — ў Расеі, на Літве і асабліва на Беларусі — яны пераважна зьвязвалі каталіцтва з сваею народнасьцяй і з польскаю мовай — аж да той меры, што каталіцкую веру беларусы лічылі польскай

---

[1] Ks. Franciszek Rutkowski. — Ksiądz Wincenty Kluczyński, Arcybiskup — Metropolita Mohylewski; Administrator Apostolski Dyecezji Mińskiej 1847—1917, Poznań str. 56.

[2] *В. Ключынскі*, каталіцкі Архібіскуп лацінскага абраду, лічыўся Мітрапалітам Магілёўскім, хаця царскім указам (1873 г.) быў забавязаны пражываць не ў Магілёве, а ў Пецярбурзе. Магілёўская Мэтраполія, апрача Беларусі і Летувы і Латвіі, обыймала ўсю Расейскую імпэрыю. Менская дыэцэзія лацінскага абраду, створаная Папам Піям VI у 1738 г., была царскім указам у 1869 г. прылучана да Віленскага біскупства. Яна была адноўлена ў 1917 г., а біскупам яе назначаны Жыгімонт Лазінскі.

ВЕЛЬМІ ПАВАЖАНЫ АЙЦЕЦ!

Калісь у нас Вы ўспаміналі, што знալі ксяндза М. Ікановіча, дык пасылаю яго фото. Ён быў у нас у Ляхавічах дзеканам і памёр 27. IV. 1937 г. ад запаленьня лёгкіх. Гэта быў паважны і талковы дзекан. Парахвіяне яго вельмі паважалі і ўсе любілі. Навуку ў касьцеле гаварыў павучальна-разумна, Яго стараньнем наш ляхавіцкі касьцёл быў памаляваны — пабеляны як усярэдзіне так і вонках, а такжа прыгожа абгароджаны.



*Кс. М. Ікановіч*

Пад час яго бытнасьці ў нас адведаў нашую парахвію Пінскі суфраган-біскуп Няміра і вось дзекан ад аўтара меў прамову-справаздачу пры перапоўненым касьцеле, падчас якое сказаў: «Мае парахвіяне ў бальшыні беларусы — добрыя каталікі, якія маюць малітаўнікі ў беларускай мове, з каторых і моляцца». — Гэта вельмі не спадабалася самому біскупу Няміру і польскай адміністрацыі, за што дзекан атрымаў дакор.

УВАГА РЭД.: Кс. М. Ікановіч у 1913 г. кончыў Віленскую дух. сэмінарыю разам з ведамымі калегамі — А. Цікотай, Аўгустыновічам, Раманоўскім, Гэрмановічам і інш. Ікановіч адзначаўся энэргіяй, вясёласьцяй: быў тварыскі і дружны з усімі. І надта нам прыемна чуць, што адзначаўся, уважаючы сябе за паляка, справядлівасьцяй у адносінах да беларусаў, а гэта нашыя крыўдзіцелі ўважалі за памылку надта шкодную для польскае дзяржавы і для Каталіцкае Царквы.

---

і сябе «польскімі» . . . А ксяндзы з гэтага толькі цешыліся!

Княгіня Радзівіл не жадала пасьля казаньня Мітрапаліта Ключынскага зь ім бачыцца, бо . . . ня было патрэбы! Ён быў такі пэўны ў сваей перамозе і лічыў апалячваньне беларусаў каталікоў фактам справядлівым і закончаным.

Гісторыя аднак, якую называюць «Magistra vitae», не даруе блізарукаму Мітрапаліту і яго сакратару! (Яны абодвы паходзілі зь Беларусі, а Мітр. В. Ключынскі нарадзіўся ў Шаркаўшчыне). Не зразумелі яны знакаў часу — беларускага адраджэньня і, палянізуючы наш народ, падсякалі карэньні сапраўднай хрыстовай справядлівасьці.

Вузкі нацыяналізм тагачасных палякаў — гэта на іхным Мілленіум — 1000-годзьдзі хрысьціянства — балючая рана, прычыненая беларусам і, сьвяткуючы ўрачыста гэты юбілей, палякі павінны аб гэтым помніць!

*Якуб Ермаловіч*

*

СОУТ РІВЭР: Ветліва просім адправіць жалобную Імшу за супакой душы трагічна памёршага сьв. пам. МІХАСЯ ЛАБОВІЧА ў саракавы дзень па ягонай сьмерці, што выпадае ў нядзелю 17-га ліпня сёлета . . .

*

ДАРАГІ АЙЦЕЦ!

Ужо найвышэйшы час, каб я зноў Вам пару слоў напісаў! Я наўмысна чакаў да цяпер, каб мець ужо пісьмовы экзамен скончаны — з дагматыкі. Слава Богу, што першая частка адыйшла! Вусны экзамен маю пры канцы месяца. Спатканьне з Уладыкам прайшло добра і сам чуюся добра, хоць крышку змучаны. Навука вымагае шмат энэргіі, асабліва тут, дзе мяшае вечны шум машын на вуліцы і крык дзяцей і іншых студэнтаў на пляцы ля нашага дому.

Ваш у Хрысьце

Дыякан Рабэрт

Кёнігштайн, 5. VII. 1966.

## *З беларускае прэсы*

НАВІНЫ ЗЬ БЕЛАРУСІ (Агляд савецкага друку), № 11 (58), 15. 6. 1966: Зьезд Пісьменьнікаў Беларусі. *Паэзія:* Даклад Макс. Лужаніна — 210 паэтычных кнігаў 112-ці аўтараў. І аб ахвярах сталінскага тэрору і аб патрэбе выдаць зборнік нашаніўцаў. *Драматургія:* Даклад А. Макаёнка. Драматургам крыху сорамна за малыя посьпехі ў параўнаньні з славай прозы і паэзіі. «За 7 гадоў — вельмі мала!». *Кінамастацтва:* «больш моцныя пазыцыі». *Крытыка* «патрабуе ўвагі да сябе». *Тэатры:* Зь 10-ці «толькі тры працуюць на роднай мове»! — Чаму?

АБ'ЕДНАНЬНЕ № 2 (108), VI, 1966. 40-годзьдзе Белар. Грамады ў Зах. Беларусі. Уплыў Грамады на ўсе бел арганізацыі ў Польшчы. Польскі ўрад у 1927 г. разграміў яе.

БАЦЬКАЎШЧЫНА, № 2 (635), Чэрвень, 1966. *«Царква — Народ — Дзяржава»*: артыкул дыскусійны — моцны, станоўкі, ясны. Характэрызуе Царкву, якую разрываюць падзеі і суседзі на ўсход і захад, разрываючы і наш народ на «рускіх» і «польскіх». Гэта вялізарнае няшчасьце народу, які затраціў сябе ў падзелах Польшчы, пад царамі і ў дзьвюх Вялікіх войнах і нарэшце ў савецкай рэвалюцыі... Аднак, на дзіва, стаў у самых няспрыяльных абставінах асьведамляцца, шукаючы праўды і волі. Такжа цікавая зацемка *«Нішчацца гістарычныя помнікі»:* паводле савецкіх газэт — улада ня толькі не ратуе нашых помнікаў ад руіны, але сама судзейнічае ў нішчэньні. «Беларускі археалёг піша, што разбурэньне археалягічных помнікаў, асабліва гарадзішчаў, працягваецца і то ў такіх памерах, у якіх яны не разбураліся ніколі дагэтуль». «За апошнія 3-4 гады разбурана значна больш помнікаў, чымся за ўвесь час іхнага існаваньня». «У Быхаве разбураюць былы палац Сапегаў, а ў Гальшанах — цэлы ансамбль палацаў». (Аб Гальшанах чытай на бач. 14-ай!).

БЕЛАРУСЬ, № 110, Травень, 1966: *450-годзьдзе беларускага друку ў 1967.* Сьвяткаваньне павінна адбыцца «на здаровым навуковым прынцыпе і ахапіць усе нашы землі...» *Змітрок Бядуля — Ясакар,* 80 год ад нараджэньня і 25 год ад сьмерці — ў 1941. *Дзень БССР на выстаўцы ў Монтрэалі:* нарэшце «нямы прагаворыць»! У Сав. Саюзе аб Беларусі «старшы брат» не даваў магчымасьці ні гаварыць, ні ёй выявіцца на Захадзе. Нарэшце ў 1967 г. назначаецца 17-га жніўня «нацыянальны дзень БССР» — танцы, хоры, цырк у Канадзе!

СЯЎБІТ, 1966, Ліпень-Жнівень, № 51: Разважаньні над магіламі (беларусаў). «Памёр добры беларус... памёр доктар... памёр сьвятар... памёр... І людзі будуць мінаць. «Што вы думаеце пра гэта?» — «ЛЯСЭР» — Прамень жыцьця ці сьмерці? І ў гэтым адчыняецца новая э п о х а. Адчыняецца бязьмерныя кругагляды...

СЬВЕТАЧ ХРЫСТОВАЕ НАВУКІ: Сем Цэркваў злучаюцца... Прэзьбітэрыянская, Мэтадыстычная, Япіскапальная, Царква Хрыста, Вучні Хрыста, Афрыканская Мэтадыстычная і Эвангельскія Брацьця. Аб'еднаньне мусіць дайсьці найпазьней у рамах 13 гадоў. Гэта сем важнейшых пратэстанскіх цэркваў — каля 20 мільёнаў. Павеў мудрасьці: «Калі ты любіш, калі молішся, калі ты церпіш — ты чалавек» (Із індый-

---

### ХРЭСЬБІНЫ

Было шмат беларусаў на Хросьце. Айцец Уладзімер хрысьціў дзіця ў царкве Хрыста Спаса (Chicago, 3107 W. Fullerton Avenue). Пасьля Хросту было АГАПЭ — банкет хрысьціянскай і беларускай любові ў чэсьць і памяць новахрышчанага. Маладая Маці, беларуска з Палесься, падносіла да прысутных і паказвала свайго любімага, вельмі прыгожага сыночка. Было ўсім радасна і прыемна на гэтым сапраўдным хрысьціянскім банкеце нашае хрысьціянскае любові, як АГАПЭ першых хрысьціян!

### ІОАН КУЧУРА ХРЫСЬЦІЎСЯ
10-га ліпеня 1966 г.

*Іоан, жаданы ты хлапец,*
*Таму і маці і айцец*
*Вяліку радасьць сёньня маюць —*
*Цябе ўсяляка выхваляюць!*
*І гэтак будзе заўсягды,*
*Сыночак, вельмі добры ты!*
*Іх шчасьцю тут няма канца —*
*Найбольш у сэрцы у айца, —*
*Заступнік ты яго ў жыцьці —*
*Цягнік жыцьця ў людзкім быцьці!*
*Цябе чакалі ад Вянца*
*Ў працягу доўгіх месяцоў...*
*Аж вось нарэшце ты прыйшоў.*
*Дай, Мілый Божа, ў добры час!*
*Пагляньь, як міла ўсё у нас:*
*Цябе Сам Госпад Бог прыслаў —*
*Тваім бацьком падарак даў.*
*Сваей адроджанай душой*
*Дзіця ты — Тройцы Прасьвятой.*
*Будзь веран Богу такжа ты*
*Як твой Патрон Іоан сьвяты!*
*Мікола — бацька, Марта — маці,*
*Бацькі шчасьлівыя дзіцяці.*
*Вяліку радасьць ў сэрцы маем,*
*Віншуем, шчасьця Вам жадаем —*
*І Вам і Яначку — сыночку — Галубочку!*
*Мы шчыра молімся за Вас*
*І Вы маліцеся за нас!*

Др. Іоан Тарасэвіч

скае скарбніцы). «Хто з прычыны Божае кары стаецца лепшым у сваіх паступках, той павінен радавацца, што наведалі яго цярпеньні, бо яны прынесьлі яму вялікую карысьць, і аддаць за іх падзяку Богу, як за кажнае іншае шчасьце» (Тальмуд). «Бог жыве ўва ўсіх людзях, але ня ўсе людзі жывуць у Богу. Тут прычына цярпеньня людзей. Як лямпа ня можа гарэць без агня, гэтак ня можа чалавек жыць бяз Бога». (Із брамінскае мудрасьці).

НІВА, № 27 (540), Ліпень, 1966. Лепшая папера, новая форма і абноўлены зьмест, ілюстрацыі. Моцная крытыка Мік. Прашковіча «Малады ўзьлёт». Вершы Віктара Швэда. «На Купалу» — Ул. Паўлючук: навязвае да старых легендаў і абычаяў. Наагул цікавы нумар — апавяданьні, навука і жарты.

ЗОРКА. Дадатак да НІВЫ для дзяцей, № 27 (440). І не абноўленая і не мае разнаякасьці «НІВЫ»: апавяданьні і вершыкі ня дрэнныя, але подаўгія.

ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА, № 130, 6 ліпеня 1966. Мангольскія госьці ў Мінску — дзеячы манг. культуры. Зьезд архітэктараў Беларусі — 300 дэлегатаў. *З народнай мудрасьці: навука-веды-практыка:* Атрымаеш веды — зразумееш свае ранейшыя недахопы. Цяжкасьці вучаць, гультайства псуе. Шмат зорак — упрыгожаньне неба, шмат ведаў — упрыгожаньне розуму. Лепей менш гаварыць, а больш думаць. Цемру ночы цяжка рассеяць адным ліхтаром. Па настаўніку мяркуюць аб вучнях, а па вучнях пазнаюць настаўніка. *Праца:* Пастараецца чалавек і гару зрушыць. Працавіты прыносіць карысьць усім, гультай — нікому. Хто глядзіць у будучыню, той лепш бачыць сучаснае. Што зробіш насьпех, то людзям на сьмех. У балбатуна заўжды заняты язык, у працаўніка заняты рукі. Восень прагуляеш — зіму праплачаш. *Мір:* Лягчэй вырашыць справу мірам, чым бойкай. *Дружба:* Дапамагай справай, а не языком. Хаця і сам з розумам, а з сябрам райся.

## З беларускага жыцьця

### ЎЛАДЫКІ ЧЭСЛАВА СІПОВІЧА ПАДАРОЖЖЫ Ў ПАЎДЗЁННАЙ АМЭРЫЦЫ

У часе ад 22-га лютага да 20-га сакавіка г. г. Дастойны Ўладыка падарожнічаў па Бразыліі і Аргентыне. Мэтаю падарожжа была кананічная візытацыя марыянскіх законных дамоў і адведзіны беларускіх асяродкаў. Хоць у Бразыліі здарыўся самаходавы выпадак, які мог скончыцца трагічна для Ўладыкі і ягоных спадарожнікаў, аднак усё падарожжа прайшло шчасьліва.

У горадзе Аракажу, сталіцы штату Сэрджыпэ, прымаў афіцыяльна беларускага япіскапа, як гасьця бразылійскага ўраду, губарнатар Чэльза дэ Карвальго, якому Ўладыка падарыў кніжку аб Беларусі ў ангельскай мове.

З беларусамі Ўладыка Чэслаў спатыкаўся ў Сан Паўлё і Буэнос Айрэс.

### ДАКЛАД У ТАВАРЫСТВЕ НЬЮМАНА

У чацьвер 12-га траўня а. А. Надсон меў даклад у «Таварыстве Ньюмана» ў Лёндане на тэму: «Моўнае пытаньне ў Царкве на Беларусі ў XV—XVI стагодзьдзях».

«Таварыства Ньюмана» (Нюман Ассоцыейшн) зьяўляецца арганізацыяй ангельскіх каталікоў з вышэйшай асьветай. Даклад а. Надсона вызваў вялікае зацікаўленьне, асабліва таму, што ў ім парушалася ў гістарычным пляне пытаньне ўжываньня народнай мовы ў царкоўных службах. Гэтае пытаньне ёсьць вельмі актуальным у Каталіцкай Царкве Рымскага абраду пасьля апошняга Сабору. Айцец Надсон быў запрошаны зрабіць яшчэ адзін даклад восеньню гэтага году.

### АГУЛЬНЫ ЗЬЕЗД ЗБВБ

У сыботу 18-га чэрвеня ў Беларускім Доме ў Лёндане адбыўся 20-ты Агульны Зьезд Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі. Акрамя шматлікіх сяброў, на Зьезьдзе былі прысутныя таксама паважаныя госьці: даст. Ўладыка Часлаў Сіповіч, які некалькі дзён раней прыехаў з Рыму ў Лёндан, і Старшыня Рады БНР, сп. інж. М. Абрамчык.

Справаздачы выказалі далейшае палепшаньне матар'яльнага стану арганізацыі і ўзмацненьне ейнай дзейнасьці, асабліва ў галінах культурнай і дапамаговай. Новым старшынёй быў выбраны сп. Павал Навара. Акрамя гэтага ў Управу ўвайшлі: а. Архім. Л. Гарошка (заст. старшыні), сп. А. Лашук (сакратар) і сп. П. Асіповіч (скарбнік).

На наступны дзень, у нядзелю 19-га чэрвеня раніцай, а. Я. Абабурка адправіў у сьвятліцы Беларускага Дому сьв. Літургію для праваслаўных. Сьпяваў хор вучняў Школы сьв. Кірыла.

Пасьля абеду ў той самы дзень сп. М. Абрамчык зрабіў даклад аб паложаньні Беларусі і беларускай справы на міжнародным грунце. Даклад, на якім было прысутных вельмі шмат людзей, выклікаў вялікае зацікаўленьне.

## ЛЁНДАНСКІЯ ЎРАЧЫСТАСЬЦІ Ў ЧЭСЬЦЬ СЬВЯТОГА АЙЦА

У трэція ўгодкі каранацыі Папы Паўла VI, Апостальскі Дэлегат у Вялікай Брытаніі ладзіў у Лёндане прыняцьці, а таксама адумысловую службу Божую ў Ўэстмінстэрскай катэдры.

Дня 29-га чэрвеня, у сьвята Вялікіх Апосталаў Пятра і Паўла, адбылося прыняцьце для дыпляматычнага корпусу ў адным з найбольшых Лёнданскіх гатэляў, Гровэнор Гаўз. Сярод прысутных былі Кард. Гінан, англіканскі архіепіскап Рамзай, міністры брытанскага ўраду, амбасадары і дыпляматы розных краінаў. Быў прысутным таксама і амбасадар Югаславіі, як знак палепшаньня адносінаў між гэтай краінай і Апостальскім Пасадам.

На наступны дзень, 30-га чэрвеня, у Ўэстмінстэрскай катэдры, Апостольскі Дэлегат, Я. Даст. Архіеп. Іджыно Кардынале, адправіў прынагодную службу Божую, а а. Батлер, абат бэнэдыктынскага манастыра Даўнсайд, у сваім казаньні заклікаў усіх маліцца за Сьв. Айца, які, як ніводзін іншы папа ў гісторыі, сам адзін нясе вялікі цяжар адказнасьці.

У катэдры, акрамя каталікоў, былі прысутныя таксама прадстаўнікі праваслаўнага, англіканскага і манафізытскага веравызнаньняў.

Беларускім прадстаўнікам як на прыняцьці, так і на Багаслужбе, былі даст. Уладыка Чэслаў Сіповіч і а. Архім. Леў Гарошка.

## З ЖЫЦЬЦЯ ШКОЛЫ СЬВ. КІРЫЛА

Беларуская Школа сьв. Кірыла Тураўскага ў Лёндане, якая ўжо скончыла пяць гадоў свайго існаваньня, ладзіла традыцыйны Купальскі вечар у сыботу 25-га чэрвеня. Прычынаю адкладу даты вечара было тое, што двух першых вучняў школы мелі матуральныя іспыты. Зьмена даты не перашкодзіла аднак хлопцам правесьці весела час. Пасьля таго, як быў заспакоены голад рознымі смачнымі рэчамі, якія самі хлопцы прыгатавалі на агні, пачаліся сьпевы і гульні, якія цягнуліся да позьняга вечару. Прабавалі скакаць цераз агонь ня толькі вучні...

Заканчэньне школьнага году адбылося ў пятніцу 8-га ліпеня ў хворме прыняцьця-вячэры. Дастойны Уладыка Часлаў, у сваей прамове, выявіў прызнаньне вучням і настаўнікам з прычыны вялікіх посьпехаў у навуцы і асабліва ў беларускай мове і пажадаў яшчэ большых дасягненьняў у наступным годзе. Ён сказаў, што мэтаю Школы сьв. Кірыла ёсьць узгадаваць добрых людзей, хрысьціянаў і беларусаў.

Неўзабаве хлопцы пачалі раз'яжджацца і ў школе запанавала няпрывычная цішыня...

# Сьвежая магіла

У пятніцу 13-га траўня г. г. беларуская Калёнія ў Лёндане сабралася, каб назаўсёды пажагнаца з адным з сваіх дзейных сябраў, сп. Аркадзем Вараваю, які памёр на рака ў аўторак 10-га траўня. Паніхіду адправіў і даканаў акту пахаваньня на Грынфардзкім магільніку Я. Д. Уладыка Мацьвей.

Аркадзь Варава радзіўся ў Вялікіх Жухавічах 48 год таму назад у сьведамай беларускай сялянскай сям'і. На бацькаўшчыне ён працаваў нейкі час настаўнікам і вучыўся ў Настаўніцкай сэмінарыі ў Нясьвіжы. Закінены ваеннымі падзеямі ў Англію, ён ад самага свайго прыезду ў 1946 годзе ўключыўся ў беларускую грамадзкую дзейнасьць, спачатку ў Згуртаваньні Беларусоў у Вялікай Брытаніі, а пасьля ў Хрысьціянскім Аб'еднаньні Беларускіх Работнікаў, якога ён быў адным з закладчыкаў. Нябожчык адзначаўся глыбокімі пачуцьцямі ляяльнасьці і самаахвярнасьці і гэтыя рысы ягонага характару здабылі яму прызнаньне сярод усіх, хто меў нагоду быць з ім бліжэй знаёмым.

Аркадзь Варава пакінуў пасьля сябе асірацелымі жонку і малую дачку.

Вечная Памяць!

# Весткі з царкоўнага жыцьця

ФРАНЦЫЯ, ЛЮРД: У 1965 годзе прыбыло ў Люрд тры мільёны пілігрымаў — так у пабожных супольных пілігрымках, як і паасобку. У гэтым ліку было нямала хворых, якія шукалі ратунку ў Найсьвяцейшай Дзевы Марыі.

*

КАНАДА: У 25-ці дзяржавах у Афрыцы працуе звыш 500 канадыйскіх місіянэраў: у іх ліку ёсьць 8 біскупаў.

*

БРАЗЫЛІЯ: Кардынал да Сільва з Сан Сальвадор абходзіў дзень нарадзінаў 90 год і 55 год біскупства — у Вялікую Пятніцу гэтага году. Гэта найстарэйшы біскуп у Лацінскай Амэрыцы.

*

ФРАНЦЫЯ: На Вялікдзень уведзена ў практыку «Ойча наш» — новы пераклад — супольна апрацаваны праз каталікоў, праваслаўных і пратэстантаў.

*

НЯМЕЧЧЫНА: У Обэраммэргаў перапраўлены тэкст Пассіі — Крыжовай Дарогі і Сьмерці Хрыстовай (вялізарнае прадстаўленьне — 800 асобаў). Пассія адбываецца раз на 10 год і трывае праз лета-восень на адкрытым пляцы: робіць вельмі праймаючае ўражаньне на гледачоў. Тэкст папраўлены ў духу II-га Ватыканскага Сабору, каб асьцярэгчыся абразы жыдоў. Наступнае прадстаўленьне адбудзецца ў 1970 г.

*

АФРЫКА, КОНГО: Біскуп Яз. Вэйгль здаў эгзамін на пілёта. Ён мусіць часта візытаваць сваіх вернікаў самалётам, а дыэцэзія абыймае 42 тыс. кв. клм.

*

ФІЛІПІНЫ: Архіпелаг у які ўваходзіць звыш 7 100 выспаў з насельніцтвам каля 30-ці мільёнаў, пераважна каталікоў вельмі пабожных, на жаль, вонкава: у аўтабусах і таксоўках — абразы, крыжы, фігуры сьвятых, ражанцы . . . Значны недахват духавенства, а таму і значны заняпад рэлігійнае веды.

*

АРГЕНТЫНА: На агульным зьезьдзе біскупаў пастаноўлена прыступіць да рэформы царкоўнага жыцьця ў духу II-га Ватыканскага Сабору. Прызналі, што патрэбны канфэрэнцыі ў кажнай дыэцэзіі, у якія будуць уваходзіць біскупы, сьвятары, законнікі і сьвецкія людзі — канфэрэнцыі, так званыя, *пастаральныя.*

Пастаральныя канфэрэнцыі наагул ладзяцца ўва ўсіх катал. краёх па ўсім сьвеце, каб ажывіць духоўнае жыцьцё і працу на місіях.

*

ЯПОНІЯ: Ідуць важныя перагаворы між каталікамі і пратэстантамі, каб узгодзіць духоўнае апостольства, бо да Ватыканскага Сабору ў місыйнай працы адчувалася моцная канкурэнцыя, а з гэтага надта дзівіліся і горшыліся пагане. Цяпер абодвы бакі пайшлі на збліжэньне: ухвалены плян экумэнічнага дыялёгу і адважыліся ладзіць супольныя малітвы. Спэцыяльны камітэт узяўся апрацаваць супольны тэкст малітвы *Ойча наш,* бо дасюль было 38 розных перакладаў паміж японскімі хрысьціянамі. Камітэт такжа хоча прысьпяшыць выданьне ўзгодненай *Бібліі.*

*

НЬЮ ЁРК: Адбылася III-яя сэсія — экумэнічная — каталікоў і пратэстантаў-прэзьбітэрыянаў: гэта быў дыспут вучоных спэцыялістаў з аднаго і другога боку, каб высьвяціць нязгодныя погляды. Пры гэтым цалкам узгоднілі супрацу ў галіне беднасьці, голаду і дыскрымінацыі.

*

УРУГВАЙ: 12 тэалёгаў каталіцкіх і 12 пастыраў пратэстанскіх уладзілі 10—12 мая трыднёвыя супольныя малітвы і размовы ў гор. Монтэвідэо для Уругваю і Аргентыны.

*

МАСКВА: 19-га мая баптысты — некалькі сотак — устроілі спакойную маніфэстацыю перад Цэнтральным Камітэтам партыі: прасілі звальненьня ад вайсковай службы і свабоды набажэнстваў. Яны на плошчы сталі на калені на малітву. Скора звалілася на іх міліцыя і забрала на грузавікі.

*

ЖЫДАМ у СССР дазволена сёлета было на Пасху даставаць з пякарняў няквашаны хлеб-мацу у гор. Маскве, Ленінградзе, Кіеве, Адессе і Рызе. Забарона трывала ад 1961 г.

*

АЎСТРЫЯ: Дзіўную і цікавую спробу законнага жыцьця ўладзілі ў Зрлях (Лінц) 8 каталікоў і 8 пратэстантаў, якія заложылі супольны манастыр-кляштар і займаюцца земляробствам. Жывуць паводле рэгулы-ўставу сьв. Бэнэдыкта.

Кляштар існуе як спроба сапраўднага экумэнізму. Законнікі паходзяць з Аўстрыі, Нямеччыны, Даніі і Швэцыі.

*

ЛЕТУВА: Пасьля сьмерці біскупа Мазэліса асталося толькі тры біскупы на ўсю краіну, але толькі адзін можа свабодна працаваць у сваёй дыэцэзіі ў Каўнас. (А ў Беларусі няма ніводнага!).

*

ЮГАСЛАВІЯ: Ідуць перагаворы з Ватыканам, як уладзіць узаемныя адносіны, бо камунізм Тіто наагул шукае новых сьцежак жыцьця. Дыктатура мусіць рабіць уступкі, бо дасюль камуна не здала экзаміну ў грамадзтве, асабліва ў эканоміі. У царкоўных адносінах таксама трэба шукаць новага курсу, бо ў Югаславіі Харвацыя і Славэнія — самыя культурныя народы — каталіцкія. У 1953 г. Папа Пій XII намінаваў біскупа Стэпінаца кардыналам, калі Стэпінац быў засуджаны на вязьніцу. Тады Тіто адпомсьціў тым, што сарваў з Рымам канкардат. Аднак падчас Сабору ўрад Югаславіі даваў пашпарты ўсім катал. біскупам на выезд у Рым.

*

ІЗРАЭЛЬ: Архібіскуп каталікоў-мэльхітаў у Галілеі падняў трывогу на ўвесь сьвет, што умовы жыцьця сталі проста немагчымыя: жыдоўскі ўрад праводзіць канфіскату земляў у хрысьціянаў. Самым жыдам памагаюць жыдоўскія арганізацыі з цэлага сьвету, а хрысьціянам не памагае ніхто. Турысты адведваюць сьвятыя памятнікі ў Палестыне, а зусім не цікавяцца жыцьцём хрысьціян. На зьезьдзе біскупаў — каталікоў-мельхітаў і маранітаў, а такжа лацінскага абраду і біскупа англіканскага і праваслаўнага — пастаноўлена зьвярнуцца супольна да Ізраэльскага ўраду з дамаганьнем паўстрымаць канфіскату земляў у хрысьціянаў арабаў. Але тымчасам урад не дае ніякага адказу.

*

ІТАЛІЯ: Выбары ў муніцыпальныя рады сёлета неспадзявана былі для камуністаў ня зусім памысныя (12. VI.): не здабылі перамогі і іхны прагрэс быў затрыманы, а нават у некаторых акругах падаліся назад. Затое каталіцкія партыі сталі перамагаць. Тымбольш гэта важна, што камуністы загадзя абвяшчалі розныя праекты згоды з Царквою.

*

ПОЛЬШЧА: 5 каталіцкіх дэпутатаў з групы «Знак» зьвярнуліся да ўраду, просячы, каб склікаць мяшаную камісію, каб палажыць канец востраму крызысу, які запанаваў у адносінах між урадам і Каталіцкаю Царквою.

*

КАНСТАНТЫНОПАЛЬ: Патрыярх Атэнагор у вялікодным пасланьні падкрэсьліў, што Праваслаўная Царква гатова ўнесьці вялікі ўклад для лучнасьці хрысьціянства і для міру ўва ўсім сьвеце. Хрысьціянства павінна ўнесьці ў сяньняшні сьвет супольнае і лучнае пасланьне аптымізму. Патрыярх вітае ўсіх патрыярхаў і кіраўнікоў Праваслаўных Цэркваў, такжа кіраўнікоў іншых хрысьціянскіх супольнасьцяў, а асабліва «Яго Сьвятасьць — улюбленага і паважанага Папу Паўла VI-га».

Нядаўна мітрапаліт Мэлітон, як прадстаўнік Патрыярха Атэнагора, адведаў праваслаўных патрыярхаў: маскоўскага Аляксея, румынскага Юстыніяна ў Букарэшце, баўгарскага Кірыла ў Софіі дый сэрбскага Германа ў Белградзе, — усё гэта ў справе прасыноду-сабору Праваслаўнае Царквы, відавочна, дзеля адбытага сабору Ватыканскага — за прыкладам каталікоў. Тымчасам мітрапаліт Мэлітон быў якбы першай ластаўкай праваслаўнага сабору.

*

ІТАЛІЯ, БАРЫ: У катэдральнай царкве ў горадзе Бары, як ведама, ляжаць мошчы-рэліквіі Сьв. Мікалая Цудатворцы. Папа Павал VI пазволіў, каб у гэтым касьцеле праваслаўныя мелі сваю капліцу для праваслаўнага набажэнства: гэта ёсьць першы выпадак у духу экумэнізму. Праваслаўнае духавенства асьвяціла гэтую капліцу ў прысутнасьці кардынала Джыоббэ — прадстаўніка сьв. Конгрэгацыі для Ўсходняй Царквы.

*

МАСКВА: Нядаўна прыйшлі весткі з СССР, што сёлета на Вялікдзень у Маскве моладзь старалася — у духу ваюючага атэізму — перашкаджаць у набажэнстве перад саборам, дзе служыў Патрыярх Аляксей: падыймалі крыкі, сьвіст, сьпеўкі, танцы між людзьмі, што не маглі зьмясьціцца ў сьвятыні. Праўда, міліцыя старалася памяшаць дэманстрантам, толькі дзіўна, што ў самай Маскве, дзе ўлада не дапускае ніякіх узрухаў грамадзтва, тасуючы найстрашнейшыя кары, атэісты патрапілі публічна турбаваць вернікаў шмат у якіх пунктах. А ў Загорску, мейсцы слаўнага манастыра, уварваліся ў храм і атакавалі падчас службы духавенства.

*

МАСКВА: Прэзыдыюм СССР яшчэ больш аграніччыў рэлігію: 1) войстра забаронена ў

сьвятынях рабіць грашовыя зборкі. 2) За раздачу рэліг. брашурак, лістовак, паведамленьняў — самая жорсткая кара! 3) Павастраецца забарона працэсіяў, сабраньняў і іншых рэліг. практыкаў, якія маглі-б «перашкаджаць публічнаму парадку»: ведама, што пад гэты пункт мясцовыя ўлады падводзяць усякія праявы рэлігійнага жыцьця вонках сьвятыняў. 4) За зламаньне закону аб «аддзяленьні Царквы ад дзяржавы» тасуюцца кары лягеру і інш. Пад гэта падводзіцца забарона вучыць дзяцей рэлігіі, нават бацькам! — Наагул такія глухія законы даюць мясцовай уладзе поўную волю прасьледаваць рэлігію.

*

МАДЗЯРШЧЫНА: Нарэшце камуністычны ўрад пазволіў тут надрукаваць 10 тысяч царкоўных мшалікаў у мадзярскай мове. Біскупы прасілі дазволу на 2 мільёны гэтых кніжак, але ўрад адмовіўся бракам паперы. Дык тымчасам каталікі пастараліся здабыць паперу: ну, і ўрад зрабіў вялікую «ласку», даўшы дазвол. Праўда, такой «ласкі» дарэмна чакаюць каталікі ў БССР!

*

АНГЛІЯ, ЛЁНДАН: Ангельскі ўрад 400 гадоў таму адабраў ад каталікоў аббацтва *Вэстмінстэр* айцоў Бэнэдыктынцаў, аддаўшы яго Царкве Англіканскай, як наагул усе тады каталіцкія касьцёлы, бо прасьлед Каталіцкае Царквы ў Англіі быў такі жорсткі, як за часоў Дыяклеціяна ў Рымскай імпэрыі.

Сёлета ў часе гэтага сумнага юбілею ў дзень сьв. Бэнэдыкта 21. III. 1966 англіканцы запрасілі каталіцкіх бэнэдыктынцаў на набажэнствa. Прыбыло 6 катал. аббатаў, якія ў сваім даўнейшым касьцеле маглі адправіць набажэнства.

## ЧЫРВОНАЯ ГІДРА

Грэцкая легенда расказвае аб жахлівым гадзе з 9-ю галовамі, аб *гідры:* яна асела між вялізных гораў у балоце, недалёка гораду Лернаў, ля адзінае сьцежкі, што вяла праз балота ў горад. Па сьцежцы бязупынна снавалі людзі тудысюды. А гідра выскаквала і хапала праходзячых. Ратунку ня было ніякага: хто парываўся зь мячом, каб пасьцінаць пражорлівыя галовы, той мусеў згінуць сам, бо на месца сьцятае выраcталі зара дзьве новыя галовы.

Дык вось людзі баяліся хадзіць той сьцежкаю ў Лерны і горад мог-бы згінуць ад голаду, бо ніхто ня прыносіў на продаж прадуктаў. Мала таго, гідра пачала рабіць налёты на суседнія вёскі і хапаць жыхароў.

Аж адважыўся магутны волат Гэркулес пайсьці на змаганьне з гідрай. Аднак мусіў-бы згінуць, каб ня помач таварыша, які стаў прыпаліваць шыі адсечаных галоваў і новыя галовы ўжо ня выраcталі. Аж асталася апошняя сярэдняя і той Гэркулес адсеч ня мог, бо яна была несьмяротная! Тады ён вырваў яе зь ейным каранём, кінуў у балота і затаптаў.

Гэркулес у змаганьні быў вельмі паранены, але горад стаў свабодным.

*

А *Радыё Свабода* дня 26. V. 1966 ў Мюнхэне (№ 4390) расказвае, як ў 1930 г. Гідра-Сталін напаў з Чырвонага Балота на беларускае «Узвышша» — 40 год таму 26-га травеня 1926 г.

«УЗВЫШША» — культурная арганізацыя, Літаратурна Мастацкае Згуртаваньне, аб якім гаварылі, што яго «пабачаць вякі і народы». Але яно праіснавала ледзь няпоўных 5 гадоў: у 1930 г. сем з 16-ці сяброў былі арыштаваныя. А скора пасьля і іншыя сябры (апрача трох) трапілі ў пазуры чырвонага гада. 5-ра зь іх — Жылка, Бабарэка, С. Дарожны, В. Шашалевіч і Т. Кляшторны скончылі жыцьцё ў той ганебнай няволі. Звольненыя скора зьмярлі — Зм. Бядуля, К. Чорны і Яз Пушча.

Ул. Дубоўка вытрываў у зьняволеньні 28 г. — аж быў рэгабілітаваны! Андрэй Мрый, Ф. Кунцэвіч і Л. Калюга — зьліквідаваныя, ня ведама як і дзе.

Вось што адзін з няшчасных пісаў аб сваім «Узвышшы»:

*Прыспусьціліся ў даліну з узвышша,*
*Каб узьняцца ізноў — і вышэй:*
*Гэта лёс на спатканьне выйшаў*
*І пярэстасьцяй сьцежку нам вышыў.*

Гідра-Сталін нарэшце сам загінуў. Хоць новыя (здвоеныя) галовы нарастаюць у чырвоным балоце, аднак беларускія ўзвышэнцы — новае пакаленьне — нарастае і працуе ў той самай ідэі стварэньня «узвышшаў, якія пабачаць вякі і народы»!

# З беларускай паэзіі

Пятро Прыходзька

## СОСНЫ НАД НЕМАНАМ

*Над Нёманам бераг зялёны*
*Шуміць ад вясны да вясны.*
*Карэньні вузлом тэлефонным*
*Спляліся ля кожнай сасны.*
*Залётныя птушкі на соснах*
*Нябачныя гнёзды зьвілі,*
*І ціха гушкаюць іх вёсны*
*На ўлоньні радзімай зямлі.*

*З дажджамі праносяцца хмары*
*Над дружнай крылатай сям'ёй,*
*Маланкі ад гулкіх udaраў*
*Трымцяць над бурлівай ракой.*
*Але, урастаючы ў глебу,*
*Дзе дыхае сонцам зямля,*
*Сасонкі ўзьняліся пад неба,*
*Як мачты на караблях.*

*Празрыстыя кропелькі росаў*
*Зіхцяць на галінках густых.*
*Здаецца, і самі нябёсы*
*Сьвятлейшымі сталі ад іх.*
*Калі-ж над ракой бліскавіца*
*У гнёзды птушыныя б'е, —*
*З нябёсаў агонь навальніцы*
*Прыймаюць яны на сябе.*

Валеры Законнікаў

## НА СЕНАКОСЕ

*Сьвішчуць звонка ў мурагу,*
*Як маланкі, косы.*
*На лугах касілак гул,*
*Ложацца пракосы,*

*Шчэцьцю колюцца лугі,*
*Хіляць долу краскі.*
*Сталі ў роўны рад стагі,*
*Як асілкі з казкі . . .*

*Аж да змроку гул плыве,*
*Потым ціхнуць гоні.*
*На духмянай мураве*
*Сьпяць касцы сягоньня.*

*А назаўтра ў промнях зноў*
*Загараціца росы.*
*Хлопцы збудзяцца ад сноў*
*І засьвішчуць косы.*

(Вучань 9-га класа, 15 год. «Літаратура і Мастацтва», № 31, 15. IV. 1966)
(Дзень Паэзіі, Менск, 1965)

Валеры Законнікаў

## БЕЛАРУСЬ

*Калі ня піў бальзам гаючы Нёмана,*
*Не бачыў сінявокае Дзьвіны:*
*Калі ня чуў бароў палескіх гоману,*
*Не пазіраў у полі на ільны:*

*Калі не кратаў росны яблык восеньню,*
*Не сустракаў ружовую зару, —*
*Тады ня ведаеш, якая ёсьць яна*
*Мая Радзіма — Беларусь.*

Сяргей Грабоўскі

## БАГАЦЬЦЕ

*Нічога мне ніколі не шкада,*
*На шчырасьць і на ласку не скуплюся,*
*Калі ў твой дом пастукае бяда,*
*Апошняю скарынкай падзялюся.*

*Нічога не зьбіраю, не таю,*
*Не берагу на чорны дзень, на сьвята,*
*А ўсё, што ёсьць, да кроплі аддаю*
*І тым шчасьлівы і багаты.*

## ЖАРТЫ

### Рэканструкцыя маўзалею ў Крамлі

Брэжнёў і Касыгін аглядаюць маўзалей.

Брэжнёў: — Ліха ведае, што нам рабіць з гэтым Ленінам? Штораз больш выкрываецца ў ягоных творах нязгоднасьць з Марксам . . .

Касыгін: — А, чорт зь ім! Давай, выкіненм яго на задворкі да Сталіна.

Голас Леніна з гробу: — Мяне вы не чапайце — перш сабе месца пашукайце!

*

### Савецкі прэзыдэнт Падгорны

Пасьля выбараў Падгорны зьвярнуўся да Брэжнёва і Касыгіна, пытаючыся:

— Якія цяпер у мяне абавязкі?

Яны сказалі:

— Ты — Прэзыдэнт у самай свабоднай дзяржаве сьвету, дык ты свабодны ад усякіх абавязкаў.

— Значыць, як у Англіі каралева?

— Так, але шырэй і глыбей . . . І скажам пад сакрэтам: можаш спаць усе 24 гадзіны. Ня бойся — МВД цябе пільнуе!

Вінцук Адважны

## ЗВАРОТ ДА ПАВАЖАНЫХ ДРУКАРОЎ

*Даражэнькі Брат Друкар!*
*Ты ляціш як на пажар:*
*Мусіць скупа часу маеш,*
*Бо шмат літар прапускаеш?*
*Або часам цэла слова*
*Перакроіш — стварыш нова:*
*А як пойдуць дзюры-латы,*
*Кажаш: «Хохлік вінаваты!»*
*Калі так, як бачым гэта,*
*Друкар стане за паэта! —*
*А тады што будзе з намі?!*
*Ці мы ў вас — памацнікамі?!*
*Папсуецца тая мерка,*
*Што «для носа табакерка»...*

*Значыць, Брат, такія справы:*
*Закашы вышэй рукавы,*
*Не каштуй пякельнай гары,*
*К' носу ўчэпіш акуляры,*
*Складай зь літар словы поўны,*
*З словаў строй радочак роўны,*
*А з радкоў бачынка будзе. —*
*Прачытаюць добры людзі*
*І пазнаюць, як ім быці —*
*Волю-долю як здабыці.*

*Ўсей карысьці мы ня зьлічым:*
*Друкар стане будаўнічым. —*
*Думкі ўсе на стол разложыць,*
*На мільёны іх размножыць*
*І аддасьць народу ў рукі.*

*Вось мудрэц, што для навукі*
*Аблысеў, змадзеў і зьдзёрся,*
*У пакойчыку запёрся, —*
*Думаў-думаў аж да поту,*
*Хоць да працы меў ахвоту,*
*Бяз друкарні быў-бы немы.*

*І паэт свае паэмы*
*Піша-піша колькі досыць*
*І ў друкарню іх прыносіць.*

*Друкар моршчыцца пякельна:*
*«Піша, кажа, нячытэльна!*
*Што прынёс? Ах, байкі, вершы...*
*Каталёг друкуем першы,*
*«Аб зладзействе», «Аб разбою»,*
*Далей, «Жарты з удавою»,*
*Балет, бокс і тое-гэта... —*
*Адапхнулі ў кут паэта!*

*А ў тых вершах душа рвецца*
*І гарача сэрца б'ецца:*
*Сонца-шчасьце, праўду-долю,*
*Любоў дасьць паэт, і волю*
*Заручае, так як можа. —*
*Дый апіша так прыгожа,*
*Што прайме да сьлёз, да сьмеху —*
*Сее радасьць і пацеху...*

*Ці-ж бяз сонца, мой Ты Божа,*
*Расьці можа*
*Дрэўца, збожжа?*
*Гэта-ж радасьць-шчасьце ў хаце,*
*Калі чуем сьмех дзіцяці!*
*І душа народу зглохне —*
*Без паэзіі засохне...*

*А Друкар, як не пазнае,*
*На бок вершы адкладае! —*

*Эй, Друкар — Дзяяч магутны!*
*Голас твой далёка чутны:*
*Ты па ўсім, па цёмным сьвеце*
*Прамяністым словам сьвеціш.*
*Твае рукі, сам ты чорны.*
*А машыну так як жорны*
*Круціш-мелеш, дый затое*
*Тваё сэрца залатое. —*

*Пажалей мяне, паэта!*
*Мая просьба будзе гэта:*
*Дам я вершы, (можа й дрэнны?),*
*Хоць-бы густ твой быў адменны,*
*Так друкуй, як напісаны*
*І... каб сэнс быў захаваны. —*
*Дык мы будзем жыць з табою,*
*Як шчупак жыве з вадою!*




**УВАГА!** **УВАГА!**

У Выдавецтве «Бацькаўшчына» выйшлі з друку асобнай кніжкай успаміны П ё т р ы С ы ч а пра баі пад Монтэ-Касыно

**СЬМЕРЦЬ І САЛАЎІ**

**Успаміны гэтыя друкаваліся ў на**шай газэце, але раптоўная сьмерць аўтара не дазволіла яму іх закончыць. Таму заканчэньне, а таксама Прадмову да кніжкі, напісаў д-р Жук-Грышкевіч.

**Выданьне сфінансаванае ўдавой аўтара, спадарыняй *Эльзай Сыч.* Зьвяртаемся з заклікам да былых сяброў аўтара й да ўсяго беларускага грамадзтва прысылаць замоўленьні на кнігу, каб гэтым спрычыніцца хоць да частковага пакрыцьця коштаў выданьня.**

**Замоўленьні просім прысылаць на адрас Выдавецтва «Бацькаўшчыны».**

**Кніжка каштуе паўтара даляра ці раўнавартасьць гэтай сумы ў валюце іншых краінаў. Грошы слаць на адрас:**

Elisabeth Sycz, Konto: 61/31361, Deutsche Bank, München, Germany

ЗЬМЕСТ:



Druck: „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14.